А. К. Краўцэвіч
Г. М. Якшук

# СТАРЫ Мір

*А. К. Краўцэвіч*
*Г. М. Якшук*



# СТАРЫ Мір

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1993

ББК 63.3(2Б)
К 78
УДК 947.66(-21 Мір)

В книге на основе архивных поисков, натурных исследований архитектурных памятников и многолетних археологических раскопок воссоздается объемная картина жизни небольшого средневекового города.

Рассчитана на историков, архитекторов, краеведов, всех, кто интересуется историей Беларуси.

Навуковы рэдактар
кандыдат гістарычных навук А. А. Трусаў

Рэцэнзенты:
кандыдаты гістарычных навук
В. Е. Собаль, М. Ф. Спірыдонаў

К $\frac{0503020903-058}{М 316(03)-93}$ 123—92

ISBN 5-343-01107-1

# УСТУП

Наша праца — спроба комплекснага даследавання аднаго са старажытных паселішчаў, якое ў сярэднявеччы вырасла да памераў невялікага горада. Мір набыў вядомасць на Беларусі і далёка за яе межамі дзякуючы добра захаванаму архітэктурнаму шэдэўру — мураванаму замку канца 15—пачатку 16 ст.

Пра Мір неаднаразова ўзгадвалі і разбіралі некаторыя моманты яго гісторыі аўтары гісторыка-краязнаўчых прац у 19—1-й палове 20 ст.: М. Балінскі, У. Сыракомля, В. Каратынскі, І. Жмігроцкі, В. Абрамовіч. Спецыяльныя працы прысвячаліся і асобным аб'ектам на тэрыторыі пасялення: Мікалаеўскаму касцёлу, замку. А. Сняжко напісаў работу па гісторыі ўсяго паселішча. Асвятляліся галоўным чынам палітычныя падзеі, праявы рэлігійнага і значна радзей сацыяльна-эканамічнага жыцця. Аднак якога-небудзь агульнага малюнка развіцця сярэднявечнага Міра названыя аўтары не стварылі.

Не абміналі Мір увагай (у першую чаргу замак) і навукоўцы пасляваеннага часу. Вынікі даследаванняў замка абагульняюцца ў працах гісторыкаў архітэктуры А. Я. Міцяніна, В. В. Калніна, археолагаў М. А. Ткачова, А. А. Трусава, І. М. Чарняўскага. Дакументальныя матэрыялы па гісторыі паселішча выкарыстоўваліся ў працах З. Ю. Капыскага, А. П. Грыцкевіча. Спецыяльнае даследаванне па гісторыі Міра выканаў М. Ф. Гурын. Аднак сярэднявечнаму перыяду там прысвечана толькі паўтара дзесятка старонак. Ход археалагічных раскопак на тэрыторыі пасёлка асвятляецца ў публікацыях А. К. Краўцэвіча. Асобны артыкул Д. С. Бубноўскага прысвечаны гісторыі горадабудаўнічага развіцця паселішча [1].

Аднак сам пасёлак прыцягваў увагу даследчыкаў значна меней за замак, і мы спрабуем неяк выправіць

[1] Працы вышэйзгаданых аўтараў змешчаны ў спісе літаратуры.

гэтую несправядлівасць. На падставе аналізу прац папярэдніх аўтараў, вывучэння пісьмовых крыніц і археалагічных матэрыялаў з раскопак жыццё і дзейнасць сярэднявечных міран падаецца на фоне акаляючага іх матэрыяльнага асяроддзя.

Акрамя апублікаваных дакументаў выкарыстоўваліся матэрыялы з так званага «Радзівілаўскага архіву» (ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694) і іншых фондаў. Самую значную групу дакументаў складаюць інвентары горада і замка. У іх апісаныя зямельныя ўчасткі, павіннасці насельніцтва, звесткі аб занятках рамяством, гандлем і інш. Наступная група — разнастайныя матэрыялы з актавых кніг замкавага суда і гарадскога магістрата, скаргі і заявы жыхароў. Некаторыя звесткі па гісторыі паселішча ўтрымліваюць запіскі, дзённікі і нататкі падарожнікаў, якія праязджалі праз Мір. Археалагічныя даследаванні пад кіраўніцтвам А. К. Краўцэвіча здабылі каштоўную інфармацыю аб развіцці тапаграфіі паселішча і побыце яго жыхароў.

Раздзел «Жыццё прыватнага горада» напісаны Г. М. Якшук пры ўдзеле А. К. Краўцэвіча, раздзелы «Тапаграфія і архітэктура паселішча» і «Матэрыяльнае асяроддзе сярэднявечнага міраніна — рэчы побыту і працы» — А. К. Краўцэвічам. Д. С. Бубноўскім падрыхтавана рэканструкцыя замка, А. А. Трусавым арганізавана фінансавае забеспячэнне выдання. Апрацоўка манетных скарбаў з раскопак выканана І. І. Сінчуком.

# ЖЫЦЦЁ ПРЫВАТНАГА ГОРАДА

## 1. У ВІРЫ ПАДЗЕЙ

Вядома, што беларускае паселішча з назвай Мір выступіла на гістарычную арэну ў канцы 14 ст., дакладней, у 1395 г. У гэты год войска Тэўтонскага ордэна пад началам самога хохмайстра Конрада фон Юнгінгена ўварвалася ў Навааградчыну і сярод іншых паселішчаў разрабавала Мір[2]. Запіс гэтай падзеі ордэнскім храністам аказаўся першым вядомым нам упамінаннем Міра ў пісьмовых крыніцах і даў падставу для прыняцця афіцыйнай даты ўзнікнення гэтага места.

Самыя старажытныя рэчы, выяўленыя ў ходзе даволі грунтоўных археалагічных даследаванняў Міра, датуюцца 2-й паловай 14 ст. Такім чынам, летапісная дата атрымала важкае падмацаванне, а меркаванні па «ўскосных даных» аб Міры як паселішчы эпохі Кіеўскай Русі і цэнтры ўдзельнага княства[3] застаюцца, на жаль, толькі меркаваннямі. Цалкам магчыма, што невялікае вясковае пасяленне існавала задоўга да ўпамінання яго летапісамі і хронікамі, аднак знайсці «пляму» культурнага слоя такой вёсачкі вельмі цяжка.

Уздым Міра прыйшоўся на час агульнага ўздыму беларускага грамадства — канец 15—1-ю палову 17 ст. Росквіт феадальнага спосабу вытворчасці выклікаў да жыцця, акрамя іншага, вялікую колькасць паселішчаў новага тыпу — мястэчак. Мір апынуўся ў іх шэрагу (як і іншыя такія паселішчы) галоўным чынам дзякуючы спрыяльнай камунікацыйнай сітуацыі — размяшчэнню на перакрыжаванні гандлёвых дарог каля пераправы цераз раку. Старажытныя гандлёвыя артэрыі дзяржавы — шляхі Вільня—Слуцак, Менск—Гародня, з дапамогай

---

[2] Baliński M. Historia miasta Wilna. Wilno, 1836. T. 1. S. 153—154.

[3] Гурин М. Ф. Мир. Мн., 1985. С. 5; Пастернацкий Е. Предисловие к летописи Мирской Никольской церкви // Минск. епарх. ведомости. Мн., 1869. № 20. С. 590.

якіх ажыццяўлялася значная частка таварна-грашовых адносін, падсілкоўвалі паселішча для далейшага росту. Іншыя спрыяльныя ўмовы, напрыклад будаўніцтва замка (канец 15—пачатак 16 ст.), дапамаглі Міру вырасці нават у невялікі горад.

Напачатку паселішча было дзяржаўнай маёмасцю, а 10 чэрвеня 1434 г. вялікі князь Жыгімонт Кейстутавіч перадаў мірскі двор віленскаму кашталяну Сенку Гедыгольдавічу: «...ніжэй названы двор, то есць Мір з тым усім, што да яго здаўна належыць, таксама з людзьмі, то есць Дзямідам з яго кроўнымі і сынамі... на вечныя часы... з правам карчавання лясоў і засялення ваколіц...» [4]

З гэтага часу пачынаецца гісторыя Міра як прыватнага ўладання. У сталым узросце Сенка Гедыгольдавіч падараваў паселішча прыёмнай дачцы Ганне Бутрымаўне, а тая ў 1476 г. перадала яго сваёй цётцы Мілохне [5]. Апошняя праз тэстамент пакінула Мір разам з фальваркам Мядзведзіца ў спадчыну брату Юры Іллінічу, прадстаўніку даўняга беларускага феадальнага роду. Ён атрымаў спадчыну ў 1485 г. Юры Ілініч прыкупіў і далучыў да Мірскага маёнтка двор на рэчцы Ушы, Жухавічы, Катлубаеўшчыну, Унехава, «...дзьве зямлі Ішкальдзкія» [6]. У 1499 г. ад вялікага князя займеў яшчэ «службу» людзей, якіх звалі Дзямідкавічамі (жылі па абодвух берагах Ушы), а таксама жыхароў вёскі Лукі [7]. Дакументы пачатку 16 ст. сведчаць, што Мір насялялі баяры і «людзі мірскія» [8].

На час адсутнасці гаспадара ўсе пытанні мясцовага, у тым ліку і гарадскога, кіравання вырашаў «ураднік» [9]. Насельніцтва Міра складалі акрамя беларусаў татары і яўрэі. Тыя і другія з'явіліся на Беларусі яшчэ ў 14 ст. Яўрэяў амаль усіх знішчылі фашысты ў апошнюю вайну, татары і беларусы працягваюць жыць побач да гэтага часу, але памёршых па-ранейшаму хаваюць кожныя на сваіх могілках.

---

[4] Syrokomla W. Wędrówki po moich niegdyś okolicach. Wilno, 1853. S. 42.

[5] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 1, спр. 4, л. 6.

[6] Там жа.

[7] Там жа.

[8] Литовская метрика. Т. 1, кн. 2. С. 1132 // Русская историческая библиотека. Пб., 1903. Т. 20.

[9] Там жа.

У пачатку 16 ст. пачасціліся набегі крымскіх татараў на землі Вялікага княства Літоўскага. Не міналі яны і Міра, паколькі вядома, што імклівыя татарскія загоны дасягалі нават Наваградка. Так, у 1506 г. татары, ідучы ад Слуцка, «...дапяўшы Наваградка, запалілі яго, а, перайшоўшы Нёман, у Літоўскай зямлі вялікай учынілі шкоды...»[10] У гэтым годзе татары пацярпелі паражэнне над Клецкам — беларускае войска пад началам князя Міхала Глінскага вызваліла зняволеных людзей і амаль цалкам вынішчыла захопнікаў.

Гаспадар Міра лічыўся ворагам Міхала Глінскага. Апошні меў уплыў на вялікага князя і адабраў у Ілініча Лідскае староства для свайго сваяка — нейкага Драздa. Аднак паны-рада, скарыстаўшы прывілей 1492 г., не зацвердзілі рашэнне вялікага князя. Разгневаны Аляксандр патрабаваў кінуць Ілініча ў турму[11].

Дзесьці ў канцы 15—пачатку 16 ст. Юры Ілініч распачаў у Міры будаўніцтва магутнага мураванага замка. Былі ўзведзены сцены і вежы, затым працы прыпыніліся. Сын Юрыя Фелікс стаў уладальнікам бацькоўскіх земляў і прыняў шлюб з Соф'яй Радзівіл — дачкой Яна Барадатага[12]. Іх адзіны сын Юры, страціўшы бацькоў, стаў выхаванцам Мікалая Радзівіла Чорнага. Той узяў яго з сабой на двор да нямецкага імператара Фердынанда II. Там Юры адзначыўся ў рыцарскай справе і атрымаў ад імператара тытул імперскага графа. Адбылося гэта 10 ліпеня 1555 г.: «Замак Мір... з усім прававым акружэннем і з усімі прыналежнасцямі выносім у ступень графства, гэтак жа самога Юры Ілініча, яго дзяцей... на вечныя часы»[13]. Такім чынам, Мір стаў цэнтрам графства. Ілініч не меў нашчадкаў і праз тэстамент перадаў Мірскае графства і іншыя маёнткі «...з мястэчкамі, мяшчанамі, з замкамі і дварамі, ... з баярскімі і шляхецкімі маёнткамі і слугамі путнымі, людзьмі цяглымі і даніннымі, з данямі грашовымі, мядовымі, мытнімі і аўсянымі, з усімі павіннасцямі, з даходамі і пажыткамі...» Мікалаю Крыштапу Радзівілу па мянушцы Сіротка[14]. З

---

[10] Хроника литовская и жемойтская // ПСРЛ. М., 1975. С. 101.

[11] Хроника Быховца // ПСРЛ. Т. 32. С. 170.

[12] Słownik Geograficzny Królewstwa Polskiego. Warszawa, 1885. T. 6. S. 485.

[13] Syrokomla W. Wędrówki... S. 52.

[14] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 4, спр. 1903, л. 3.

1569 г. пасля смерці графа Ілініча яго ўладанні перайшлі да Радзівілаў[15].

Пачынаючы з канца 16—пачатку 17 ст. дакументы часта называюць Мір і горадам («горад», «места»)[16], і мястэчкам. Колькасная дэфініцыя горада і мястэчка заўжды складаная задача: у розных рэгіёнах Еўропы і для розных часоў яна вырашалася па-рознаму[17]. Мы карыстаемся прынятым для Беларусі крытэрыем вызначэння горада — 300 дымоў з улікам адміністрацыйна-палітычнага значэння паселішча. Таму Мір можна аднесці да малых гарадоў[18].

Радзівілы дбалі аб сваёй маёмасці і выгадзе, разумеючы, што іх дабрабыт звязаны з дабрабытам падданых. Мікалай Крыштап Радзівіл дараваў Міру прывілей на некаторыя правы гарадскога самакіравання. Гэта адбылося 27 снежня 1579 г.[19]

З імем новага ўладальніка звязана будаўніцтва гарадскіх умацаванняў, ратушы, шпіталя, касцёла, мураваных жылых будынкаў. Рознымі льготамі прывабліваліся новыя пасяленцы.

Каб не дапусціць драблення сваіх вялізных уладанняў, Радзівілы нясвіжскай лініі ўстанавілі маярат. Паводле пагаднення між імі, зацверджанага ў 1586 г. каралём Сцяпанам Баторам[20], з нясвіжскага ўладання былі ўтвораны тры ардынацыі: Нясвіжская, Клецкая і Алыцкая. Мірскі маёнтак уваходзіў у склад Нясвіжскай ардынацыі. Кіраўнік княскай адміністрацыі ў Нясвіжы ўзначальваў і мірскую, адначасова ён быў ваенным губернатарам. Ардынацкая шляхта выбірала сяброў гродскага ардынацкага суда (падстаросту, суддзю і пісара), якія зацвярджаліся князем. Гродскі суд збіраўся на сесіі кожныя два месяцы (два тыдні ў Нясвіжы, трэці ў Мі-

---

[15] Syrokomla W. Wędrówki... S. 54.

[16] ЦДГА РБ у Мінску, ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 2464, л. 110.

[17] Ястребицкая А. Л. Малые города как проблема сравнительно-исторического изучения европейского средневекового города // Средние века. М., 1988. Вып. 51. С. 58—79.

[18] Копысский З. Ю. Города Белоруссии во второй половине XVI— первой половине XVII в.: Автореф. дис. ... д-ра ист. наук. Мн., 1967. С. 15—16; Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVII вв. Мн., 1975. С. 36—37.

[19] Aleksandrowicz S. Geneza i rozwój sieci miasteczek Bialorusi i Litwy do polowy XVII w. // Acta Baltiko-slawica. Bialystok, 1970. N 7. S. 78.

[20] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 4, спр. 1295, л. 36; воп. 1, спр. 143, л. 1—14 адв.

ры) [21]. На судзе разбіраліся не толькі справы шляхты, але грамадзянскія і крымінальныя справы гараджан са шляхтай. Паводле «Статута правоў ардынацый княства Нясвіжскага і графства Мірскага» зямля перайшла ў спадчыннае трыманне шляхты, хоць князь застаўся поўным яе ўласнікам. Без яго згоды зямлю нельга было прадаць, падарыць, забаранялася дзяліць зямельны надзел паміж сынамі. Ён належаў толькі старэйшаму сыну разам з пабудовамі і чацвёртай часткай рухомай маёмасці [22]. Для скасавання даўгоў у шляхціца нельга было адбіраць зямлю, зброю, коней. У «Статуце» адлюстраваліся нормы вядзення гаспадаркі. Прадпісвалася пастаянна трымаць у маёнтку запас харчавання, рэкамендавалася мець слугаў і эканома. З мэтай праверкі баяздольнасці шляхты перыядычна па патрабаванню князя праводзіліся перапісы асабовага складу і маёмасці. Жорстка каралася ўхіленне шляхціца ад ваеннай службы.

Перыяд з канца 15 да сярэдзіны 17 ст. быў, бадай, самы спрыяльны і плённы ў гісторыі Беларусі. Закончылася вайна з крыжакамі, Беларусь ачуняла пасля шэрагу эпідэмій 14—1-й паловы 15 ст., (найстрашнейшая была так званая «чорная смерць»—бубонная чума). На ўсходзе ўдавалася неяк стрымліваць Маскоўскую дзяржаву, якая рвалася ажыццявіць ідэю «Масква—трэці Рым». У гэтыя часы беларусы распачалі свой кнігадрук, распрацавалі і выдалі адзін з самых дасканалых кодэксаў права — Статут 1588 г. Такой верацярпімасці, як у Вялікім княстве Літоўскім, не было нідзе ў Еўропе.

Зразумела, нельга казаць аб нейкай ідыліі. Былі рэлігійныя звады, міжусобныя бойкі, крывавыя войны з Масковіяй, з якіх самай цяжкай сталася Лівонская, былі набегі татараў і яшчэ шмат чаго нядобрага, але ў параўнанні з тым, што пачалося пазней, з сярэдзіны 17 ст., перыяд канца 15—1-й паловы 17 ст. сапраўды стаў «залатым часам Беларусі». Яскравейшым сведчаннем гэтаму з'яўляецца масавая, сапраўды народная матэрыяльная культура тых часоў, адкрытая беларускімі археолагамі за апошнія два дзесяцігоддзі, у тым ліку і ў Міры.

З сярэдзіны 17 ст. Рэч Паспалітая ўступіла ў глыбокі крызіс, выкліканы шэрагам войнаў і эпідэмій.

---

[21] Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVII вв. С. 175.

[22] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 4, спр. 1344, л. 2.

У першы год вайны Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай (1654—1667 гг.) у Міры было спакойна, сюды яшчэ не дайшлі ваенныя дзеянні. Кароль Ян Казімір абраў Мір месцам правядзення Смаленскага сейміка [23], паколькі сам Смаленск ужо быў захоплены маскавітамі ў 1654 г. Аднак сейм не адбыўся. Вясной 1655 г. расейскія войскі пачалі новае наступленне, а восенню гэтага года захапілі Мір [24]. Да восені была занята амаль уся тэрыторыя Беларусі.

Летам таго ж года супраць Рэчы Паспалітай выступіла Швецыя. За некалькі месяцаў шведскія войскі акупавалі значную частку Польшчы, Літвы і Беларусі. Склалася групоўка беларуска-літоўскіх магнатаў, ад імя якой гетманы Я. Радзівіл і В. Корвін-Гансеўскі ў жніўні 1655 г. падпісалі дагавор аб пераходзе Вялікага княства Літоўскага пад пратэктарат шведскага караля.

У 1655 г. Багуслаў Радзівіл прывёў да Міра шведскі атрад, каб зваяваць уладальніка горада Міхаіла Казімежа Радзівіла, які не далучыўся да прашведскай кааліцыі. Шведы збудавалі гаць, каб падняць узровень вады ў возеры, і пачалі затапляць падол. Была затоплена паўночнаўсходняя частка горада. Затым замак і горад узялі штурмам [25]. Шведскія жаўнеры спалілі фальварак, зламалі млыны, спусцілі ставы, паруйнавалі замак. У інвентары 1660 г. маецца запіс аб тым, што замку патрабуецца рамонт, асабліва ў «верхніх і сярэдніх» пакоях, якія нацярпелі ад абстрэлу з гармат [26].

Часам міране мелі непрыемнасць і ад сваіх войскаў. У верасні 1663 г. цераз Мірскае графства праходзіла гусарская харугва віленскага епіскапа Ежы Бялазора пад камандай паручніка Крыштапа Бялазора, якая накіроўвалася да галоўнага лагера. Мяшчане Міра і зямяне заключылі з харугвай пагадненне, па якому абавязваліся даставіць жаўнерам пэўную колькасць правіянту і напояў. Гусары абяцалі прайсці як мага хутчэй праз графства і не спыняцца на начлег. Аднак, атрымаўшы харчаванне, харугва парушыла пагадненне. Паволі рухаючыся,

---

[23] АВАК. Вильно, 1909. Т. 34. С. 35.

[24] Мальцев А. Н. Россия и Белоруссия в середине XVII века. М., 1974. С. 98.

[25] Słownik Geograficzny Królewstwa Polskiego. T. 6. S. 486.

[26] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 2, спр. 4466, л. 283—283 адв.

войска рабавала насельніцтва, а ў Міры ўчыніла беспарадкі [27].

У 1665 г. дзьве харугвы кавалерыі, якія складаліся з шляхты і падпарадкоўваліся жмудскаму старосце Ежы Каролю Глебавічу, дамовіліся з міранамі, што пройдуць на месца размяшчэння збоку ад горада. Аднак, парушыўшы пагадненне, шляхціцы з жаўнерамі зрабілі наезд на горад, «...дзе, узломваючы амбары, лаўкі, і самых мяшчан білі, секучы і ранячы, забраннем грошай, рэчаў, зерня і іншага... шкоды на злотых 2388 учынілі...» [28]

Толькі ў 1691 г. уладальнік Міра Кароль Станіслаў Радзівіл дамогся ў судзе, прызначаным сеймам, кампенсацыі шкоды, якую нарабілі шляхціцы ў яго гарадах і вёсках.

Паступова горад адраджаўся пасля вайны, зноў актывізавалася рамесная і гандлёвая дзейнасць, пачалі прыязджаць гандляры нават з Расіі. Так, у дакуменце за 1671 г. адзначана, што ў Пасольскі прыказ Маскоўскай дзяржавы паступіла чалабітная маскоўскага жыхара Г. В. Бельскага аб выдачы праезджай граматы ў Беларусь «...да Слуцка і да Міра...» [29] Маскоўскі стольнік П. Талстой у 1697 г. адзначыў, што ў Міры «...домов изрядного строения много» [30]. Да 1690 г. будаўнікі скончылі аднаўленне замка [31].

Аднак міранам, як і ўсёй Беларусі, не даводзілася доўга жыць спакойна. У сакавіку 1706 г. пад час Паўночнай вайны войска Карла XII захапіла і разрабавала горад. 27 красавіка пасля артылерыйскага абстрэлу штурмам быў узяты і спалены замак [32].

У 1710—1711 гг. многія раёны Рэчы Паспалітай перажылі эпідэмію чумы, гэтай нязменнай спадарожніцы вайны. Мор не мінаваў і Міра.

У 18 ст. Радзівілы здавалі свае маёнткі ў арэнду. Мірскае графства разам з фальваркам атрымаў у 1747 г. пісар Вялікага княства Літоўскага А. Прасудецкі на тры

---

[27] Грицкевич А. П. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв.). Мн., 1979. С. 31—32.

[28] Там жа. С. 33.

[29] Русско-белорусские связи во второй половине XVII в. (1667—1686 гг.): Сб. док. Мн., 1972. С. 87.

[30] Путевой дневник стольника П. А. Толстого. 1697—1699 гг. // Русский архив. М., 1888. Т. 1. № 1—4. С. 186.

[31] Калнин В. В. Мирский замок. Мн., 1986. С. 17.

[32] Słownik Geograficzny... Т. 6. S. 486.

гады. Арандатар унёс у скарбніцу ўладальніка 33 406 злотых[33]. Ён дбаў толькі аб сваім уласным прыбытку і бязлітасна эксплуатаваў насельніцтва. З 1753 г. у Міры жыў Кароль Станіслаў Радзівіл. Да яго прыезду быў адрамантаваны замак. З імем гэтага князя звязана з'яўленне ў Міры цыганоў. Заснаваўшы асобную абшчыну, цыганы спавядалі каталіцызм, мелі сваё кіраванне і старшыну, які насіў тытул цыганскага караля. Ён выдзяляўся асаблівым строем і як сімвал сваёй улады насіў «джупла цераз плячук ці бізун са срэбнай рукаяткай»[34]. 22 ліпеня 1778 г. Кароль Радзівіл выдаў асобны прывілей Яну Марцынкевічу, галаве цыганоў Вялікага княства Літоўскага, сталіцай якіх быў аб'яўлены Мір[35]. Князь Радзівіл браў пад сваю абарону ўсіх цыганоў, якія жылі ў яго ўладаннях, у тым ліку меўшых дамы і пляцы ў Міры.

У 2-й палове 18 ст. з нагоды аслаблення Рэчы Паспалітай узмацнілася ўмяшальніцтва ў яе справы суседніх дзяржаў.

Прусія, Расія і Аўстрыя ў 1772 г. правялі першы раздзел Рэчы Паспалітай. Спробы рэфармаваць дзяржаўны лад не выратавалі становішча. У красавіку 1792 г. войскі Расейскай імперыі ўступілі на Беларусь, а ў чэрвені яны пад Мірам разбілі корпус войскаў Вялікага княства Літоўскага на чале з Юдзіцкім[36]. У 1793 г. пасля другога падзелу мяжа паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай праходзіла непадалёк ад Міра[37]. Пад час паўстання 1794 г. воі Тадэвуша Касцюшкі адбіваліся ў Мірскім замку ад царскіх войскаў. Пасля аблогі і артабстрэлу замак быў узяты штурмам[38].

Нарэшце, у выніку трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай Мір адышоў да Расейскай імперыі[39] і з 1795 г. пачаўся

---

[33] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 4, спр. 1305а, л. 131.

[34] Пастернацкий Е. Предисловие к летописи Мирской Никольской церкви. С. 567.

[35] Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVII вв. С. 158.

[36] Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1972. Т. 1. С. 403.

[37] Рубинштейн С. Ф. Хронологический указатель указов правительственных распоряжений по губерниям Западной России, Белоруссии и Малороссии за 240 лет. Вильна, 1894. С. 152.

[38] Słownik Geograficzny... S. 486.

[39] Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II (1792—1796). Вильна, 1903. Карта.

новы нялёгкі этап гісторыі мястэчка — цэнтра воласці Наваградскага павета.

## 2. ЭКАНАМІЧНАЯ І САЦЫЯЛЬНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ МІРАН

Трэба сказаць, што жыхары Міра ва ўсе часы, як спрыяльныя так і цяжкія, не пераставалі плённа займацца рамяством, гандлем і сельскай гаспадаркай. Супольнае жыццё, агульныя клопаты збліжалі рознаэтнічнае насельніцтва паселішча. Акрамя беларусаў праваслаўнага (пазней уніяцкага) і каталіцкага веравызнанняў Мір насялялі татары, яўрэі, а з 18 ст. вядома дзейнасць цыганскай абшчыны. Яўрэі складалі сваю асобную рэлігійна-адміністрацыйную суполку (кагал). На іх не распаўсюджвалася права куплі палявых участкаў на гарадскіх землях. У горадзе яўрэі займаліся гандлем, ліхвярствам, некаторымі відамі рамяства, сяліліся пераважна каля рынку. Яны плацілі за «базарныя пляцы» чынш у тры разы большы, чым астатнія жыхары Міра [40].

Асобнай абшчынай жылі таксама татары. Іх асноўным заняткам быў выраб скур і вазоў. Займаліся татары і агародніцтвам, былі вызваленыя ад платы чыншу за гароды [41].

Цыганы займаліся рамяством, дзякуючы ім сталі знакамітымі мірскія конскія кірмашы, на якія прыязджалі за коньмі нават з іншых краін.

Мы ўжо ўпаміналі, што ў пачатку 16 ст. насельніцтва Міра складалася з баяраў і «людзей мірскіх». Пад апошнім тэрмінам разумеліся сяляне, рамеснікі, гандляры, якія жылі ў горадзе. У пачатку 17 ст. па дакументах з жыхароў горада вядомы шляхта, святары, багатыя купцы, заможныя і дробныя рамеснікі.

Больш дэталёвыя звесткі ўтрымлівае інвентар 1693 г.[42] З яго вывучэння відаць, што жыхары Міра складалі некалькі сацыяльных груп. Прывілеяванае становішча мелі шляхта, святары, афіцэры замкавай залогі, чыноўнікі адміністрацыі. Большасць насельніцтва з'яўлялася мяшчанамі: купцы, сярэднія і дробныя гандляры, цэхавыя старшыны, заможныя і бедныя рамеснікі. Частку гараджан складалі жабрацкія «лезныя» людзі, якія пераходзілі з горада ў горад і жылі за кошт ча-

---

[40] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 4, спр. 1305а, л. 115.
[41] Там жа, л. 112.
[42] Там жа.

совай працы, і каморнікі, не меўшыя ўласнага жылля.

Мяшчане па маёмаснаму становішчу дзяліліся на тры групы: 1) патрыцыят — гандлёвыя і рамесныя вярхі; 2) асноўная маса рамеснікаў і гандляроў; 3) рамеснікі, якія разарыліся, чаляднікі, дробныя гандляры, наймiты.

Уладальнікі горада не былі зацікаўлены ў збядненні сваіх падданых і бралі на сябе некаторыя клопаты аб міранах.

Яшчэ Юры Ілініч (старэйшы) некалькі гадоў вёў спрэчку з Юрыем Рыгоравічам Осцікам аб уездзе жыхароў Міра ў Свержаньскую пушчу. Толькі ў 1522 г. спрэчка вырашылася на карысць Ілініча: «І мы, паводле сведацтва пана Марцінава а пана Кміціна, знайшлі ў тым пана Юры Ілініча правага і прысудзілі яго міласці ў тую пушчу Сверженьскую з двара яго міласці Мірскага баярам і ўсім людзям яго міласці Мірскім той уезд меці, а з іншых маёнткаў людзі, а не Міране, у тую пушчу... уступу не маюць меці...» [43] У пушчы гараджанам дазвалялася знаходзіцца тры дні запар, пры выездзе неабходна было папярэдзіць «урадніка Свержынскага», «...абы ён паслаў віжа і ўгледзеў дрэва бортнага і зерэмян бабровых, іж бы яму ў тым шкоды не было...»

Прывілей Мікалая Крыштапа Радзівіла ад 27 снежня 1579 г. аб гарадскім самакіраванні мудра даваў магчымасць падданым самім арганізоўваць сваё жыццё. Паводле прывілея галоўную распараджальную ўладу ў горадзе ажыццяўляў войт, які ўзначальваў гарадскую раду (магістрат). Войт выбіраўся мяшчанамі і зацвярджаўся магнатам (гэта адзначана ў прывілеі 1619 г.) [44]. Князь дарыў яму дзьве валокі ворнай зямлі і некалькі пляцаў у горадзе. У склад магістрата акрамя войта ўваходзілі бурмістры, райцы, пісар, лаўнікі. Рада фарміравалася, як правіла, з заможнай часткі гараджан. Судзебная і адміністратыўная функцыі былі галоўнымі ў дзейнасці войта і рады, яны таксама займаліся раскладкай падаткаў і іх зборам. Дзейнасць рады кантраляваў староста Мірскага графства. Мірскі староста прызначаўся князем і радай з ліку знаных гараджан. У выпадку невыканання мяшчанамі іх абавязкаў перад магнатам ста-

---

[43] Литовская метрика. Т. 1, кн. 2. С. 1132—1133.

[44] Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVII вв. С. 158.

роста меў права накладаць штраф у памеры 50 талераў на карысць замкавага кіравання [45].

Жыхары прыватнаўласніцкага горада з атрыманнем самакіравання вызваляліся ад улады і суда дзяржаўнай адміністрацыі. Горад выплочваў у дзяржаўны скарб адзіны падатак, памеры якога вызначаліся эканамічным станам паселішча. Насельніцтва па-ранейшаму заставалася ў феадальнай залежнасці. Князь аддаў мяшчанам у спадчыннае ўладанне местачковыя пляцы і землі ў межах паселішча, але з абавязковай штогадовай выплатай чыншу. За кожную валоку зямлі плацілі капу літоўскіх грошаў. За кожны прэнт на рынку — 8 пенязяў, за прэнт на вуліцы — 5 пенязяў. У лік павіннасцяў уваходзілі розныя будаўнічыя працы (рамонт гарадскіх умацаванняў, плаціны, мастоў) і гаспадарчыя — 8 талок на жніве на сваім харчаванні. Мусілі пры паводках зберагаць плаціну, дастаўляць лісты ўладальніка ці паноў гарадской рады на адлегласць да 2 міль (каля 14 км) ці ў Нясвіж, штодня выдзяляць 10 чалавек для аховы горада [46].

Мяшчане, нягледзячы на некаторыя льготы у параўнанні з сялянамі, былі залежнымі ад ўладальніка, паколькі іх зямельныя ўчасткі заставаліся яго ўласнасцю. І ў праве спадчыны мяшчане мелі шэраг абмежаванняў. Пры выдачы пасагу ў выпадку выхаду мяшчанкі замуж за межы Міра маладыя павінны былі прымаць прысягу на вернасць уладальніку горада.

Гаспадары не шкадавалі сродкаў для храмаў, як праваслаўнага, так і каталіцкага. На працягу 1533—1550 гг. у Міры будавалася праваслаўная Траецкая царква [47]. На ўтрыманне святара князь у 1582 г. дараваў «...дзьве валокі зямлі ворнае к грунту замку нашого Мірскага, лежачыя ў сяле Азёр, і чатыры моргі сенажаці над ракою Ушой...» «Служэбніку і валочніку» Мартыну Тхарыцкаму належала прасачыць за платай чыншу сялянамі вёскі [48].

У 1587 г. быў збудаваны драўляны касцёл [49]. На яго

[45] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 4, спр. 1305а, л. 85.

[46] Там жа, л. 85, 432.

[47] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гродзенская вобласць. Мн., 1986. С. 219.

[48] Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильна, 1867. Т. 3. С. 57.

[49] Snieżko A. Kościół farny w Mirze. Lida, 1937. S. 19.

ўтрыманне Радзівіл даравау прывілеем 1588 г. 19 валок ворнай зямлі, размешчанай паміж надзеламі горада і вёскі Радунь, гарод, возера і млын з домам. Сюды дабаўлялася 30 моргаў сенакосу над рэчкай Ушай каля Жухавіч. Князь абавязаў усіх жыхароў горада штогод даваць на ўтрыманне ксяндзоў па аднаму літоўскаму грошу з кожнага пляца, а з кожнай валокі — па аднаму карцу жыта і возу дроў. У выпадку неўраджаю гараджане мусілі даваць кампенсацыю за кожны карэц жыта — восем літоўскіх грошаў [50]. Драўляны касцёл быў разабраны па загаду князя ў 1599 г., а на яго месцы фундаваны мураваны. У 1604 г. яго будаўніцтва было скончана. Прывілеем 1604 г. Радзівіл пакінуў за ксяндзамі «карцаўшчызну» ад 110 валок зямлі і дадаткова перадаў ім фальварак Азёрска з 42 валокамі [51].

У 1610 г. пры касцёле заснавана так званае братэрства Шкаплера [52]. Яно аб'ядноўвала гарачых прыхільнікаў каталіцкай царквы з Мірскага графства. Пры Траецкай царкве дзейнічала праваслаўнае братэрства [53].

На Нясвіжскай вуліцы ў Міры Радзівілы адкрылі шпіталь для сірот і ўбогіх [54]. Пры касцёле існавала школа. Тут дзеці міран вучыліся чытаць, пісаць, завучвалі на памяць катэхізіс і малітвы. Пасля пабудовы уніяцкага кляштара ў 18 ст. школа перайшла да яго ведама [55]. Кляштар заснаваў Кароль Станіслаў Радзівіл у 1705 г. пры Траецкай царкве. На яго ўтрыманне ён прызначыў «...штогодны ўзнос харчавання са сваёй эканоміі і запісаў 30 000 злотых польскіх, забяспечыўшы іх на маёнтку Айкувіцы» [56].

Пра сярэднявечны горад нездарма казалі, што ён напалову заселены, а напалову засеяны. Жыхары Міра актыўна займаліся агародніцтвам, земляробствам і жывёлагадоўляй [57]. На гарадской зямлі за межамі паселі-

---

[50] Snieżko A. Kościół farny w Mirze. S. 21.

[51] Пастернацкий Е. Предисловие к летописи Мирской Никольской церкви. С. 522.

[52] Snieżko A. Kościół farny w Mirze. S. 57.

[53] Описание церквей и приходов Минской епархии. Мн., 1879. С. 92.

[54] Мараш Я. Н. Очерки экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII в. Мн., 1974. С. 203.

[55] Snieżko A. Kościół farny w Mirze. S. 56.

[56] Историко-статистическое описание Минской епархии. Спб., 1864. С. 134.

[57] Литовская метрика. Т. 1, кн. 2. С. 549—550.

шча знаходзіліся гароды, участкі для гумнаў, палі, лугі, сенакосы, выганы гараджан. У межах горада меліся толькі невялікія гароды. Пасля правядзення зямельнай рэформы, вызначанай Уставай на валокі 1557 г., у жыхароў Міра налічвалася 105 валок ворыва, 128 моргаў сенакосу, размешчаных «...на Астоўшчызне, Парубкоўшчызне, у прысадах нясвіжскіх, над рэкамі Нёманам і Ушой», 1467 прэнтаў гародаў, 26 пляцаў і 206 прэнтаў гумнаў [58]. За карыстанне зямлёй жыхары штогод плацілі ўладальніку горада чынш у памеры 1490 злотых. Даход магната ад розных фальваркаў складаў 11 тысяч злотых [59].

У 17 ст. 350 гаспадароў мірскіх двароў валодалі 105 валокамі зямлі [60]. Асноўнай масе мяшчан належала па 1/4 валокі на двор. Частка гарадскога насельніцтва мела большыя надзелы, другая частка — меншыя (1/8 або 1/12 валокі). У інвентары 1693 г. пазначана, што ў горадзе жылі і зусім беззямельныя. З канца 15 ст. актыўна развіваліся фальваркі. Да 1792 г. у Мірскім уладанні налічвалася шэсць фальваркаў і 968 сялянскіх двароў [61].

Важнай крыніцай сыравіны для міран заўжды была Свержаньская пушча. Паляванне ў ёй давала мяса, скуры. Жыхары Міра вывозілі з пушчы будаўнічы матэрыял, «...бралі ў той пушчы... лыка, вязьё на патрэбы...», у Нёмане лавілі рыбу «з крыгаю і з сеткай, як здаўна бывала...» [62]

У Міры жыла вялікая колькасць людзей, чыя дзейнасць і зрабіла паселішча горадам. Гаворка ідзе аб рамесніках і гандлярах. Рамеснікі розных спецыяльнасцяў забяспечвалі прыладамі працы, гаспадарчымі і побытавымі рэчамі не толькі жыхароў горада, але і насельніцтва ўсіх навакольных вёсак.

Па дакументу канца 16 ст. вядома адзінае імя з майстроў, якія працавалі на будоўлі замка. У красавіку 1594 г. Радзівіл загадаў намесніку Мірскага графства Андрэю Скарульскаму правесці канчатковы разлік з Мартынам Заборскім за «каменныя працы». Майстар жыў у Міры, дзе яму быў перададзены дом для жылля [63].

---

[58] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 4, спр. 1305а, л. 111.

[59] Там жа, л. 112.

[60] ЦДГА РБ у Мінску, ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 2443/1.

[61] Козловский П. Г. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII—XVIII в. Мн., 1969. С. 178.

[62] Литовская метрика. Т. 1, кн. 2. С. 1130.

[63] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 2, спр. 4466 л. 365.

Канцэнтрацыя рамеснай вытворчасці ператварыла паселішча ў цэнтр гандлю. Рамеснікі і гандляры не абмяжоўваліся адным толькі рынкам свайго горада. Княская верф па выразбу буйных рачных караблёў, размешчаная ў вёсцы Дзераўной, штогод закупляла ў Міры жалеза, жалезныя клямары, канаты, пакулле для канапачання суднаў, палатно для ветразяў, смалу[64]. Розныя тавары набывала княскае ўпраўленне. Так, у кнізе набыткаў і расходаў за 1609 г. сярод запісаў была пералічана плата за «жалеза для стайняў, за тры пары абутку», купленыя ў Міры[65]. Нешматлікія дакументы, якія захаваліся з 16—1-й паловы 17 ст., далі магчымасць толькі прыблізна вызначыць колькасць рамеснікаў і рамесных спецыяльнасцяў. З іх ліку можна выдзеліць гарбароў, кушняроў, ткачоў, ганчароў[66]. Асабліва славіліся мірскія ганчары, іх плён добра прасочаны ў ходзе археалагічных раскопак — знаходкі керамічнага посуду і кафлі лічацца тысячамі.

Магутны ўсплёск жыцця ў горадзе назіраўся ў кірмашныя дні. Кірмашы заўсёды былі эфектыўнай формай таварна-грашовых адносін. Цераз Мір праходзіў гандлёвы шлях. У дакуменце за 1619 г. ён названы «...вялікім галоўным гасцінцам, які ідзе з Вялікага княства Літоўскага да Любліна», і па ім «буйныя купцы з цяжкімі таварамі часта праязджаюць»[67]. Гасцінец Орша—Брэст, дарогі на Клецак, Слуцак, Слонім таксама вялі праз Мір.

У 2-й палове 17 ст., нягледзячы на зруйнаванне падчас вайны з Маскоўскай дзяржавай, у горадзе была развітая рамесная вытворчасць. Колькасць прафесій рамеснікаў у параўнанні з 1-й паловай 17 ст. павялічылася больш чым на палову[68] (табл. 1). Гэта адбылося ў першую чаргу за кошт выдзялення з агульнага працэсу некаторых тэхналагічных аперацый. Найбольшае развіццё ў Міры атрымалі такія рамёствы, як дрэваапрацоўка, апрацоўка мінеральнай сыравіны, г. зн. ганчарства, бу-

---

[64] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, спр. 1997, л. 11—20.

[65] Там жа, спр. 9773, л. 74—82.

[66] Там жа, ф. 694, воп. 2, спр. 4959, л. 7, 9, 10, 16, 17, 83; спр. 4467, л. 77.

[67] Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии. С. 154.

[68] Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVII вв. С. 84—85.

даўнічая справа. Усяго налічвалася 16 такіх прафесій. Многія рамеснікі займаліся вырабам вопраткі, пражы, а таксама ткацтвам. Расла колькасць спецыялістаў па апрацоўцы металу, вырабу зброі. Гарбарства і кушнерства па-ранейшаму знаходзіліся ў руках татараў.

З'явіліся ў горадзе новыя спецыялісты, у асноўным звязаныя з абслугай замка: мармуршчыкі, кафельшчыкі, карэтныя абіўшчыкі, слесары, механікі і інш. Так, у інвентары за 1693 г. сказана, што «... на вуліцы Высокай жылі два рыбакі, піварар і токар, якія працуюць у замку» [69]. Спецыфікай рамесных заняткаў у прыватнаўласніцкім горадзе быў выраб рэчаў на заказ. Тагачасная ўладальніца Міра Людовіка Караліна Радзівіл падтрымлівала такім чынам рамесніцтва і купецтва [70].

Горад пастулова залечваў раны, нанесеныя рускімі і шведскімі войскамі ў часы вайны 1654—1667 гг. Аднавіўся ўзровень тавараз вароту рынку. Гандлявалі ў Міры рознымі таварамі. Мінскія купцы прывозілі «... шапкі-цюрбаны па 6 зл., маскоўскія шапкі па 4 зл., чамбровыя па 2 зл., баранковыя шапкі, палосы рускага футра па 10 і 12 зл., турэцкія скуры па 6 зл. ...» [71]

Да канца 17 ст. горад стаў буйным гандлёвым цэнтрам. Два разы ў год, 9 траўня і 6 снежня, у Міры праходзілі буйныя кірмашы. Яны працягваліся па чатыры тыдні [72].

Прыезд гандляроў на кірмаш у Мір не абыходзіўся без канфліктаў, якія выліваліся ў судовыя спрэчкі. Напрыклад, доўга варагавалі брэсцкія і мінскія купцы-яўрэі [73]. Мірскаму старосце Станіславу Казіміру Кгратоўскаму каштавала вялікіх намаганняў арганізаваць бяспеку прыбыўшым на кірмаш гандлярам з названых кагалаў [74]. Купцы звярталіся са скаргамі і да ўладальніцы. Караліна Радзівіл перадала іх справы на разгляд яўрэйскага суда, але гэта не палепшыла ўзаемаадносін. У 1693 г. Кароль Радзівіл вымушаны быў выдаць універ-

---

[69] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 4, спр. 1305а, л. 103—103 адв.

[70] Там жа, воп. 2, спр. 4466, л. 8—10 адв.

[71] Белоруссия в эпоху феодализма // Сб. документов и материалов. Мн., 1960. Т. 2. С. 290.

[72] Słownik Geograficzny... S. 487.

[73] АВАК. Вильна, 1902. Т. 29. С. 35—36, 119, 138, 141, 152—153, 463—464.

[74] Там жа. С. 141.

сал, які забяспечваў усім прыбыўшым на кірмаш поўную бяспеку ад «напасцяў і арыштаў»[75].

У чыншавай ведамасці 1688 г. пералічаны розныя катэгорыі гандляроў, якія пражывалі ў Міры[76]. Па інвентару 1677 г. у горадзе налічвалася 97 лавак (камор) і 12 каморак[77]. Значную частку мірскіх гандляроў складалі купцы-яўрэі, у якіх шляхта з ваколіц мела звычай купляць уборы для сваіх жонак і дачок[78].

З 17 ст. вядомыя аб'яднанні мірскіх рамеснікаў, якія спачатку называліся братэрствамі, а затым цэхамі. У 1686 г. Кароль Радзівіл зацвердзіў у Міры цэх ткачоў[79]. Па прывілею ткачам прызначана было праводзіць штогод вялікую сходку для выбрання цэхмістра, а таксама штомесячныя сходы, дзе кожны рамеснік павінны быў класці ў цэхавы братэрскі сундук па тры літоўскія грошы. За тры прапушчаныя сходкі сябры цэха плацілі штраф — 1 фунт воску, а за ўхіленне ад сходу на вінаватага падавалася скарга ў замкавае кіраўніцтва. Пры паступленні ў цэх рамеснік уносіў у братэрскі сундук 12 коп літоўскіх грошаў, а чаляднік — 2 злотых. За брак, заніжэнне цэнаў, падман рамеснікі падвяргаліся штрафу ў 100 грыўнаў. На братэрскіх сходках цэх быў абавязаны служыць на працягу года шэсць абедняў — тры ў касцёле і тры ў царкве. Акрамя таго, цэх меў свой сцяг і свечы. Ён павінны быў са сваімі сцягамі прымаць удзел ва ўрачыстых цырымоніях, хаваць з магчымай пышнасцю сяброў, а таксама гарадскіх жабракоў. Гэта быў самы мнагалюдны цэх.

Інвентар Міра 1693 г. паказвае наяўнасць 55 рамеснікаў 27 прафесій[80]. У гэтым годзе быў зацверджаны аб'яднаны цэх краўцоў, кушняроў, шапачнікаў і далучаных да іх пазументнікаў, ганчароў, музыкантаў, а ў 1694 г. атрымаў зацвярджэнне шавецкі цэх[81]. Па прашэнню мяшчан у сакавіку 1695 г. Кароль Станіслаў Радзівіл зацвердзіў яшчэ адзін цэх без назвы. У яго ўвайшлі рамеснікі розных спецыяльнасцяў: мечнікі, набой-

[75] Encyklopedia powszechna. Warszawa, 1864. T. 18. S. 644.

[76] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 2, спр. 4466, л. 8 адв., 9, 10 адв.

[77] Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVII вв. С. 137.

[78] Encyklopedia powszechna. T. 18. S. 644.

[79] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 4, спр. 1305а, л. 35, 51.

[80] Там жа.

[81] Там жа, спр. 1292, л. 11; Спр. 1305а, л. 35.

Табліца 1. **Віды рамяства і колькасць прафесій у Міры ў 17—18 стст.**

| Рамяство | Колькасць прафесій | | |
|---|---|---|---|
| | 1-я пглова 17 ст. | 2-я палова 17 ст. | 1-я палова 18 ст. |
| Гарбарная і футравая вытворчасць | 1 | 6 | 4 |
| Выраб пражы, вопраткі, ткацтва | 1 | 9 | 10 |
| Апрацоўка металаў, выраб зброі | 6 | 8 | 7 |
| Дрэваапрацоўка, ганчарства, будаўнікі | 3 | 16 | 20 |
| Прыгатаванне харчовых прадуктаў | 3 | 4 | 7 |
| Транспартныя прафесіі | 1 | 2 | 3 |
| Іншыя рамёствы і прафесіі | 3 | 4 | 7 |
| Усяго | 18 | 49 | 58 |

шчыкі, збраёўнікі, майстры залатых спраў, слесары, вышывальшчыкі, кацельшчыкі, шкляры, сталяры, рэзчыкі па дрэву і кавалі. Прывілей указваў, што статут цэха прыняты па ўзору нясвіжскага [82].

Да канца 17 ст. у Міры было 4 цэхі. У іх уваходзілі рамеснікі-хрысціяне: каталікі, уніяты, праваслаўныя. Не прымаліся ў цэхі татары-мусульмане [83], яўрэі. Дзейнасць рамеснікаў-яўрэяў, якія ўваходзілі ў цэх як выключэнне, кантралявалася радай. Цэхі ўдзельнічалі ў сістэме гарадскога самакіравання. У саміх гэтых арганізацыях сярэднявечнага горада назіралася раздзяленне на майстроў (больш заможныя), чаляднікаў і вучняў. Як і па ўсёй Еўропе, важнейшай рысай мірскай цэхавай арганізацыі была сістэма рэгламентацыі вытворчасці і вырабу рэчаў, закупкі сыравіны. Цэхавыя статуты ўтрымлівалі забарону купцам прывозіць збоку і прадаваць у Міры тыя вырабы, якія рабіліся гарадскімі рамеснікамі. Выключэнні дапускаліся толькі ў кірмашныя дні [84].

У 1753 г. Кароль Радзівіл зацвердзіў кавальскі цэх, самы малы сярод мірскіх — усяго 4 майстры, з іх два

[82] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 4, спр. 1305а. л. 35, 61—62.

[83] Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVII вв. С. 119.

[84] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 4, спр. 1305 а, л. 35—35 адв.

прыезджыя. Фінансавы стан цэха залежаў амаль заўсёды ад колькасці яго сяброў. Кавальскі быў бедным, яго сябры не змаглі нават купіць свечак на пахаванне свайго дабрадзея-князя Радзівіла ў тым жа 1753 г.[85]

Міране займаліся рамяством і ў іншых месцах. Так, у віленскім ткацкім цэху з 63 яго сяброў два былі выхадцы з Міра — майстры Ян Адановіч і Якуб Яцэвіч.

З 18 ст. у Міры з'яўляюцца мануфактуры, дзе працавалі наёмныя рабочыя і ўжываўся падзел працы. Радзівілы — уладальнікі мануфактур — для павелічэння збыту іх прадукцыі карысталіся сваім становішчам гаспадароў шматлікіх гарадоў, мястэчак і вёсак. У 1753 г. магнат распарадзіўся, каб купцы, якія гандлююць у яго гарадах і мястэчках — Нясвіжы, Міры, Карэлічах і інш.,— куплялі толькі сукно з яго мануфактур і не адважваліся прадаваць імпартнае. «І калі ў лаўках будзе знойдзена сукно не з маёй мануфактуры, то яно будзе канфіскавана, а купцы пакараныя...» [86]

На мірскай ткацкай мануфактуры выраблялі дываны і габелены. Апошнія мелі невялікія памеры і ў асноўным ткаліся для асабістых патрэбаў князя, радзей на продаж. Самымі буйнымі з мірскіх мануфактур былі палатняная і суконная [87]. У 1752 г. князь перавёў усе ткацкія мануфактуры з Міра, Камянца, Нясвіжа і Альбы ў Карэлічы [88]. З ростам мануфактур паступова пачалі занепадаць цэхі. Далейшае развіццё ў гэтыя часы мела фальварачная гаспадарка, якая суправаджалася ростам вотчыннага прадпрымальніцтва. У гаспадарцы шырока выкарыстоўваліся млыны. Мір меў чатыры млыны: замкавы, каменны, францішканскі, звярынецкі [89], а ўсяго да Мірскага графства належала 11 млыноў.

Міране не заўжды былі задаволеныя сваім жыццём, не заўжды згаджаліся з рашэннямі ўладаў. Мяшчане абураліся высокімі падаткамі, асабліва ўзрастаўшымі ў ваенныя і пасляваенныя часы, наракалі на самавольства адміністрацыі і шляхты. Сваё незадавальненне яны вы-

---

[85] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 1, спр. 311, л. 65.

[86] Романовский Н. Р. Развитие мануфактурной промышленности в Белоруссии (вторая половина XVIII — первая половина XIX в.): Автореф. дис. ... д-ра экон. наук. Мн., 1970. С. 18.

[87] Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Мн., 1986. Т. 3. С. 636.

[88] Там жа. С. 642.

[89] Гурин М. Ф. Мир. Мн., 1985. С. 19; ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 4, спр. 1305 а, л. 131 адв.

казвалі праз скаргі да ўладальніка. Захаваўся дакумент — скарга міран у 1507 г. на баярына Багдана Вацюлевіча, што «...адымае ў нас землі нашыя вотчызныя, звечныя і на тых землях жыта і ярыны пасеяў...» [90] Звычайна далей скаргаў законапаслухмяныя міране не ішлі. Праўда, аднойчы сяляне спалілі фальварак Ілініча Мядзведзіцы, які размяшчаўся непадалёк ад Міра. Такія дзеянні выглядаюць як выключэнне з правіла, ды і невядома, ці прымалі ў іх удзел жыхары Міра. Вядома, што гаспадар расправіўся з паўстанцамі і як кампенсацыю за свае страты адабраў у сялян заліўныя лугі на рацэ Ушы [91].

У 1688 г. татары з Міра, якія займаліся вырабам скур, падалі скаргу камісару княгіні Радзівіл на старосту Мірскага графства. Яны скардзіліся, што за вырабку 70 скур староста даў замест належных 70 злотых толькі 3 [92]. Злоўжыванні старосты Ябланоўскага (быў ля ўлады ў 1689—1693 гг.) дасягнулі такіх памераў, што мірскі гараднічы Якуб Кісель вымушаны быў сам падаць Радзівілу скаргу з пералікам усіх ліхадзействаў крутога чыноўніка. Тут былі і зборы з мяшчан на сваю карысць грошай звыш устаноўленага падатку за гандаль, і купля на рынку тавараў у мяшчан па прымусова заніжанай цане, набыццё зямельных участкаў незаконным шляхам і г. д. [93].

Выраслі падаткі пасля Паўночнай вайны, з'явіўся новы від платы — райтаршчызна, якую бралі чатырма часткамі ў год з мяшчан, па 70 злотых за кожную частку [94]. У 1717 г. яўрэйскі кагал выплаціў магнату 900 злотых падымнага [95]. Інвентар Міра за 1720 г. адзначае, што з кожнага рыначнага пляца, забудаванага і незабудаванага, плацілі па 3 злотых 15 грошаў, а з пляцаў на вуліцах, прылягаўшых да рынку, па 2 злотых 15 грошаў. Ганна Радзівіл універсалам ад 22 жніўня 1727 г. абавязала мяшчан вывозіць дрэва з пушчы для звярынца, прымаць удзел у аднаўленні горада [96].

---

[90] Литовская метрика. Т. 1, кн. 2. С. 549—550.

[91] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 1, спр. 4, л. 6.

[92] Грицкевич А. П. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв.). С. 33.

[93] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 2, спр. 4466, л. 110—111.

[94] Гурин М. Ф. Мир. С. 18.

[95] Słownik Geograficzny... S. 487.

[96] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 4, спр. 1305 а, л. 47.

З 2-й паловы 18 ст. паглыбляецца эканамічны і палітычны крызіс дзяржавы, які ў рэшце прывёў яе да пагібелі. Англійскі падарожнік В. Кокс, які праязджаў праз Мір у жніўні 1779 г., запісаў у сваім дзённіку: «...жыхары гэтай вёсачкі былі такімі беднымі, што мы не маглі здабыць самага звычайнага харчавання» [97].

Ужо нядоўга заставалася да прыходу новай улады. На заходнюю Беларусь рыхтаваўся накласці лапу ўсходні сусед — драпежная Расейская імперыя.

---

[97] Кокс В. Путевые впечатления англичанина (1779—1785 гг.) // Русская старина. Спб., 1907. № 7—9. С. 628.

# ТАПАГРАФІЯ І АРХІТЭКТУРА ПАСЕЛІШЧА

## 1. РАЗВІЦЦЁ ПЛАНІРОЎКІ

Мір належыць да тых беларускіх паселішчаў, якія ў познім сярэднявеччы выраслі з вясковых пасяленняў да мястэчак і гарадоў. Яго рост паскараецца з 2-й паловы 15 ст., калі на Беларусі пачынаецца эканамічны ўздым. Павелічэнне аб'ёму таварна-грашовага абарачэння выклікала да жыцця вялікую колькасць паселішчаў новага тыпу (названых мястэчкамі), бо існаваўшыя здаўна гарады (месты) відавочна не спраўляліся з рэалізацыяй гэтага аб'ёму. Чаму ж мястэчкам, а затым і невялікім горадам, цэнтрам ваколіцы стаў менавіта Мір, а не якая-небудзь іншая суседняя вёска? Відавочна, такі лёс выпаў Міру дзякуючы спрыяльнай камунікацыйнай сітуацыі — наяўнасці перакрыжавання важных гандлёвых дарог каля пераправы. Тут сыходзіліся шляхі Вільня—Нясвіж (цераз Свержань), Слуцак—Клецак і Менск—Слонім. Паселішча развівалася ў адпаведнасці з накірункам гэтых дарог, уся планіровачная структура Міра абумоўлена імі, прыстасавана да іх.

Некаторыя звесткі аб самым раннім этапе фарміравання тапаграфіі паселішча здабытыя з дапамогай археалогіі. Пісьмовых крыніц няма зусім. Тапаграфія 2-й паловы 16—18 ст. вывучалася комплексным метадам па пісьмовых крыніцах і матэрыялах археалагічных раскопак.

«Пляма» культурнага слоя найстаражытнага паселішча выяўлена каля цэнтральнага перакрыжавання. Яна займае плошчу ў чвэртку гектара і прымыкае да вуліцы Чырвонаармейскай (былая Віленская) з паўднёвага захаду, а з усходу абмежавана вуліцай Першамайскай (былая Слонімская) (мал. 2). Тут знойдзены фрагменты керамічнага посуду, які датуецца канцом 14—пачаткам 15 ст. Першым элементам урбанізацыі паселішча лічыцца з'яўленне плошчы [98]. Гандлёвая плошча ўзнікла за

[98] Rewieńska W. Miasta i miasteczka w pólnocno-wschodniej Polsce. Wilno, 1938. S. 43.

кошт пашырэння часткі галоўнай вуліцы ў адзін бок. Так, па ўсёй верагоднасці, было і ў Міры. Плошча знаходзіцца пры вуліцы Віленскай (сучасная Чырвонаармейская) насупраць выяўленага раскопкамі найстаражытнага паселішча. Месца для торгу фарміравалася на свабодным ад забудовы баку вуліцы-дарогі. Мы не можам дакладна вызначыць час узнікнення гандлёвай плошчы, але мяркуем, што фарміраванне яе завяршылася




1. Сучасны план г. п. Мір. А — размяшчэнне шурфаў (лічба азначае нумар шурфа); Б — раскопы; В — траншэі; *I* — Мікалаеўскі касцёл; *II* — Траецкая царква; *III* — рэшткі Віленскай брамы; *IV* — рэшткі Менскай брамы; *V* — рэшткі Слонімскай брамы; *VI* — рэшткі Нясвіжскай брамы; *VII* — замак; *VIII*—*IX* — хрысціянскія могілкі; *X* — татарскія могілкі; *XI* — жыдоўскія могілкі

ў 16 ст. Гэтым часам датуюцца найстаражытныя матэрыялы, выяўленыя раскопкамі з захаду і ўсходу ад рынку. Магчыма, на месцы будучай плошчы вёўся гандаль яшчэ ў 15 ці ў канцы 14 ст., але пакуль гэтае месца не было акружана забудовай, нельга казаць аб сфармаванай плошчы.

Культурны слой паселішча 15 ст. выяўлены акрамя месца першапачатковага пасялення яшчэ на паўднёвы ўсход ад касцёла і на тэрыторыі замка. Тут пад слоем замкавай падсыпкі раскопкамі А. А. Трусава знойдзены рэшткі паселішча 2-й паловы 15 ст. са слядамі моцнага




2. Тапаграфія Міра ў канцы 14—15 ст. па археалагічных даных. А — культурны слой найстаражытнага паселішча; Б — культурны слой паселішча 15 ст.

пажару[99]. Замак збудаваны над гэтым пажарышчам. Цалкам магчыма, што тут здаўна размяшчалася сядзіба ўладальніка Міра. Такую думку выказаў Д. С. Бубноўскі ў артыкуле аб гісторыі горадабудаўнічага развіцця Міра[100]. Паколькі гэта адзіны артыкул, які прысвечаны названай праблеме, то варта спыніцца на ім трохі падрабязней. Большасць высноў, прыведзеных у артыкуле, можна ахарактарызаваць як даволі паспешлівыя і слаба абгрунтаваныя. Усе тры схемы планіровачнай сітуацыі паселішча (15, 16 і 17 стст.) з'яўляюцца спрэчнымі. На першай (15 ст.) паказаны неабгрунтавана вялікі пасад на поўдзень ад дарогі Вільня—Нясвіж (выходзіць нават за межы ўмацаванняў 16—17 стст.). На поўнач ад гэтага шляху каля самага цэнтра не паказана зусім ніякай забудовы аж да 17 ст. Для паселішча местачковага або гарадскога тыпу такое нежаданне жыхароў сяліцца каля перакрыжавання гандлёвых дарог — справа нерэальная: дакументы 16—17 стст. сведчаць аб значна вышэйшай суме чыншу з пляцаў на рынку ў параўнанні з зямельнымі ўчасткамі на вуліцах (гл. с. 15). На другой схеме (16 ст.) паказаны два не звязаныя паміж сабой пасады — хрысціянскі на сваім даўнім месцы (на поўдзень ад названай вышэй дарогі) і татарскі на менскай дарозе. Паміж імі, як лічыў Д. С. Бубноўскі ў час напісання артыкула, было пустое месца, якое займала самы цэнтр паселішча каля перакрыжавання дарог. І толькі ў 17 ст. у прамежку паміж двума жылымі раёнамі быццам была ўтворана гандлёвая плошча. Такое меркаванне абвяргаецца вынікамі археалагічных раскопак і дакументамі 16—17 стст. Культурны слой 16 і нават 15 ст. знойдзены вакол перакрыжавання дарог і менавіта гэтае месца было ядром, з якога разрасталася паселішча. Шматгадовыя даследаванні гісторыкаў і археолагаў у гарадах і мястэчках Беларусі і Беларускага Панямоння паказваюць, што менавіта вакол цэнтра фарміруецца паселішча, тут самая шчыльная сярэднявечная забудова, адклаўся самы магутны культурны слой, выяўлены самыя старажытныя рэчы. Няма ніякіх падстаў сцвярджаць, што Мір быў выключэннем.

---

[99] Трусаў А. А. Археалагічныя даследаванні Мірскага замка // ПГКБ. 1980. № 4. С. 33.

[100] Бубноўскі Д. С. Гісторыя горадабудаўнічага развіцця г. п. Мір // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Мн., 1989. С. 136—141.




3. Тапаграфія Міра ў 17 ст. А — прыблізная тэрыторыя паселішча; Б — лінія ўмацаванняў; *1* — гандлёвая плошча; *2* — Мікалаеўскі касцёл; *3* — Траецкая царква; *4* — Віленская брама; *5* — Слонімская брама; *6* — Менская брама; *7* — Нясвіжская брама; *8* — замак; *9—10* — хрысціянскія могілкі; *11* — жыдоўскія могілкі; *12* — татарскія могілкі

Напачатку ў 14—15 стст. і, магчыма, у нейкі перыяд 16 ст. у Міры мелася чатыры вуліцы, якія за межамі паселішча пераходзілі ў названыя ўжо дарогі. Як звычайна, паселішча больш актыўна развівалася паралельна рацэ ўздоўж менска-слонімскай дарогі, чым па лініі, перпендыкулярнай да ракі (віленска-нясвіжская дарога). Вуліцы называліся адпаведна: Віленская, Слонімская (Аюцэвічская), Менская, Нясвіжская (магчыма, Свержаньская).

У 16—1-й палове 17 ст. адбываўся найбольш значны рост паселішча, з'явіўся шэраг новых вуліц. Акрамя пісьмовых крыніц рост гэты пацвярджаюць даныя археалагічных даследаванняў. У сярэдзіне 16 ст. Мір складаўся са Старога і Новага места[101]. Культурны слой 16 ст. займае значна большую плошчу, чым слой паселішча 15 ст.

У канцы 15—16 ст. адбываецца далейшае фарміраванне архітэктурнага вобліка горада. Будуюцца мураваны замак уладальніка (канец 15—пачатак 16 ст.; мал. 4), Траецкая царква (1533—1550 гг.), Мікалаеўскі касцёл (1587 г., драўляны), ратуша — архітэктурныя дамінанты паселішча. Радзівілы адкрылі шпіталь у Міры, але невядома, якімі напачатку былі яго памеры і з якога матэрыялу ён быў збудаваны. Горад абносіцца лініяй умацаванняў, прычым Радзівіл, стаўшы ўладальнікам Міра, «...новымі мурамі апаясаў места»[102]. На падставе гэтай фразы можна вывесці, што да 1569 г. (пераход Міра ва ўладанне да Радзівілаў) паселішча ўжо мела ўмацаванні. Па ўсёй верагоднасці, Ю. Барташэвіч, ужываючы слова «муры», меў на ўвазе не мураваныя сцены, а ўмацаванні ўвогуле. Далей ён піша: «Сёння яшчэ, як расказваюць, стаяць там чатыры бастыёны і брама, а ўсё (места.— *А. К.*) апаясана валам і ровам». Мы не маем звестак аб тым, што бастыёнаў было болей, чым чатыры. Таму з'яўленне на плане-схеме М. А. Ткачова пятага бастыёна каля Нясвіжскай брамы[103] можна лічыць адвольным. Археалагічная траншэя на месцы пазнейшага вала каля былой вуліцы Завальнай (зараз Ленінградскай) паказала, што вал быў насыпаны ў адзін прыём.

---

[101] ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 4, спр. 1305 а, л. 56, 101, 112, 119; Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 3. С. 57.

[102] Bartaszewicz J. Zamek Bialski. Lwów, 1881. S. 44.

[103] Ткачоў М. А. Замкі і людзі. Мн., 1991. С. 41.

Узвядзенне мірскіх умацаванняў, відавочна, можна звязаць з падобнымі працамі ў Нясвіжы ў канцы 16—пачатку 17 ст. І Мір, і Нясвіж былі радзівілаўскімі уладаннямі. Цалкам магчыма, што працамі ў абодвух месцах кіравалі адныя і тыя ж людзі. На прыкладзе Міра прасочваецца яўная супярэчнасць паміж тэндэнцыяй «стыхійнай» эвалюцыі паселішча (выцягнутасць уздоўж ракі) і воляй горадабудаўніка. Умацаваннямі абнесена цэнтральная частка пасада ў форме, блізкай да квадрата. За іх межамі засталася частка пасада, заселеная татарамі, і частка Слонімскага прадмесця. Размяшчэнне ўмацаванняў канца 16—пачатку 17 ст. стала вядомым дакладна дзякуючы выяўленню ўсіх чатырох гарадскіх



4. Мірскі замак у сярэдзіне 16 ст. Спроба рэканструкцыі архітэктара Д. С. Бубноўскага

брам. Умацаванні канца 15—1-й паловы 16 ст., нават калі яны былі ўзведзены, наўрад ці ўдасца прасачыць, бо ва ўмовах шчыльнай забудовы і інтэнсіўнага жыцця горада яны маглі знікнуць бясследна.

Матэрыялы археалагічных раскопак даюць даволі дакладнае ўяўленне аб развіцці паселішча ў 16—17 стст. Культурны слой 16 ст. выяўлены вакол гандлёвай плошчы і на самой плошчы. З захаду прыблізнай мяжой яго распаўсюджання з'яўляецца вуліца Кірава (былая Высокая), з усходу — вуліца Маскоўская. З поўначы і поўдня такія межы намі пакуль не выяўлены, але можна меркаваць, што яны знаходзяцца на большай адлегласці ад цэнтра, чым з захаду і ўсходу, улічваючы тэндэнцыю да пераважнага развіцця паселішча ўздоўж ракі. Пасля збудавання касцёла вакол яго пачалі з'яўляцца пахаванні, якія моцна перамяшалі культурны слой. Каля царквы раскопкі не праводзіліся і сітуацыя тут не высветлена.

У 17 ст. заселены заходняя (паміж вуліцамі Кірава і Ленінградскай) і ўсходняя (паміж вуліцамі Маскоўскай і Піянерскай) часткі паселішча. Асноўная тэрыторыя Міра ў 17 ст. размяшчалася ў прамавугольніку, блізкім да квадрата, бакамі якога з'яўляюцца сучасныя вуліцы Танкістаў, Ленінградская, завулак Першамайскі (мал. 1), з усходу прыроднай мяжой служыць рака Міранка. Менавіта гэтая тэрыторыя была абнесена лініяй умацаванняў. На чатырох выездах з горада стаялі брамы: Віленская, Нясвіжкая, Слонімская і Менская (мал. 3).

У 2-й палове 17 ст. вядомыя вуліцы: Слонімская, Віленская, Менская, Высокая, Татарская, Заазёрная, Завальная (не ўсе з іх дакладна акрэслены на плане места) і два прадмесці: Слонімскае і Менскае.

Археалагічныя раскопкі ў заходняй частцы Міра даюць пэўнае ўяўленне і аб планіроўцы сядзіб. Так, у прыватнасці, паміж вуліцамі Кірава і Ленінградскай

Табліца 2. **Колькасць двароў у Міры з 2-й паловы 16 да сярэдзіны 18 ст.**

| Колькасць двароў | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 2-я палова 16 ст. | 1-я палова 17 ст. | Сярэдзіна—2-я палова 17 ст. (1677 г.) | Канец 17 ст. (1693 г.) | 1-я палова 18 ст. | Сярэдзіна 18 ст. |
| 300 | 477 | 295 | 392 | 382 | 242 |

Т а б л і ц а 3. **Вуліцы і сядзібы Міра ў 17 ст. (па інвентарах 1647, 1681, 1686, 1688 гг.)**

| Вуліцы, прадмесці | Сядзібы |
|---|---|
| Рынак. З аднаго боку касцёл з плябанню | Домаўладанні па перыметру з трох бакоў |
| В у л і ц ы: | |
| Аюцэвічская (з 1636 г. Слонімская) | Ад рынку домаўладанні з абодвух бакоў — 13 і 16 |
| Віленская | Ад рынку домаўладанні з абодвух бакоў — 15 і 10 |
| Высокая | Ідучы да Аюцавічаў 32 і 36 домаўладанняў |
| Менская | Ад рынку 4 і 6 домаўладанняў (1681 г.— ідучы ад рынку справа 3 домаўладанні і пляц на «шпіталь рускі») |
| Татарская | Ад брамы Менскай да «завала» 28 і 4 домаўладанні (1681 г.— 30 пляцаў і 2 пляцы на «шпіталь мураваны касцёльны») |
| Завальная гуменная, вуліца ад вала (5—6 домаўладанняў) | 35 домаўладанняў |
| Заазёрская | 9 домаўладанняў |
| Высокая | Ідучы ад поля 28 і 22 домаўладанні |
| П р а д м е с ц і: За брамай Аюцаўскай (Слонімскай) | 38 і 44 домаўладанні |
| За брамай Віленскай | 9 і 7 домаўладанняў (за 1681 г.— 41) |
| За брамай Менскай | 23 і 23 домаўладанні |

(былая Завальная) сядзібы размяшчаліся ў наступным парадку: жылыя і гаспадарчыя пабудовы знаходзіліся каля вуліцы Кірава — тут адклаўся шчыльны культурны слой (1—1,8 м). Агароды выходзілі да вала, слой тут амаль адсутнічае. Верагодна, падобнай была планіроўка і ў іншых частках пасада. У 18 ст. прыкметнага росту паселішча не адбывалася. Аб гэтым таксама сведчаць археалагічныя раскопкі. Можна спадзявацца, што далейшыя даследаванні дазволяць дакладна акрэсліць памеры прадмесцяў, якія размяшчаліся за межамі ўмацаванняў.

У 1987 г. па ўзбочыне вуліцы Першамайскай была пракапана траншэя пад водаправод шырынёй каля 1,2 м

і глыбінёй 1,5—1,8 м. За межамі ўмацаванага паселішча на ўчастку паміж дамамі № 47 і 57 у гэтай траншэі зафіксаваны ямы, пракапаныя ў чырвонай мацерыковай гліне і запоўненыя светла-шэрым пяском уперамешку з глінай. Памеры ям дакладна вызначыць не ўдалося, глыбіня — 1,8—2 м. У іх ёсць вуголле, косці жывёл, керамічны посуд канца 16—17 ст. Паходжанне і прызначэнне гэтых ям застаецца загадкай. Тое самае можна сказаць аб выяўленых у 1982 г. рэштках мураванага будынка каля ўсходняга краю плошчы. Па цэгле і знаходках на падлозе падвала ён датаваны 17 ст. Прызначэнне гэтага будынка пакуль не вызначана.

## 2. АРХІТЭКТУРА І АБАРОНЧЫЯ ЗБУДАВАННІ

Як і па ўсёй Беларусі, галоўным будаўнічым матэрыялам міран было дрэва. Драўлянымі былі жылыя, гаспадарчыя будынкі гараджан, з дрэва рабіліся агароджы і масты. Першым мураваным збудаваннем у Міры, па ўсёй верагоднасці, стаў замак гаспадара. Яго пачалі будаваць дзесьці ў канцы 15—пачатку 16 ст. на месцы згарэўшага паселішча 2-й паловы 15 ст. Спачатку да месца навезлі пяску і гліны, выраўнялі будаўнічую пляцоўку, затым пачалі ўзводзіць сцены і вежы. Для патрэб будаўніцтва ў бліжэйшых паселішчах Бірбашы і Прапошы былі зроблены цагельні. Вапну вазілі са Свержаня [104]. Аб замку назбіралася даволі вялікая колькасць літаратуры [105], ён добра вывучаны гісторыкамі архітэктуры, таму мы не будзем засяроджваць на ім увагу. У гэты першы этап будаўніцтва замак застаўся недаробленым, былі ўзведзены толькі сцены і вежы.

На працягу 1533—1550 гг. у Міры збудаваная Траецкая царква. Паколькі крыніцы не адзначаюць, як у выпадку з Мікалаеўскім касцёлам, што яе будавалі з дрэва, то верагодна царква была мураванай. Касцёл жа быў зроблены з дрэва ў 1587 г., мураваным ён стаў у 1599—1605 гг. Верагодна, драўляны культавы будынак (хутчэй за ўсё царква) існаваў у Міры яшчэ да будаўніцтва замка.

Царква мае паўкруглую алтарную апсіду, якая выступае з асноўнага аб'ёму. У 19 ст. прыбудаваныя звані-

---

[104] Калнин В. В. Замок в Мире (буклет). Мн., 1978.
[105] Гл. спіс літаратуры.

A-A'

0 20 40см

II

Пн

A

A'

I

Умоўныя пазначэнні

| | | |
|---|---|---|
| дзённая паверхня | цэгла | пясок |
| гумус | фрагменты цэглы | суглінак |
| светла-шэры слой | гліна | вуголле |
| цёмна-шэры слой | чырвоная гліна | вапна |
| муроўка ў разрэзе | жоўтая гліна | камяні |
| цагляная муроўка | жвір | мацярык |

5. Рэшткі мураванага будынка 17 ст. каля ўсходняга краю плошчы (раскопкі 1982—1983 гг., шурфы 6, 13, 14). *I* — план шурфа 6 (квадрат 1) і шурфа 13; *II* — разрэз рэштак скляпення будынка

ца, бабінец, пяць купалаў і выгляд храма зараз значна адрозніваецца ад сярэднявечнага.

Касцёл уяўляе сабой трохнефную аднавежавую базіліку. Ярусы вежы аздобленыя нішамі, цэнтральны неф мае цыліндрычныя, бакавыя — крыжовыя скляпенні. Помнік таксама неаднаразова перабудоўваўся. Мураваным быў шпіталь на Нясвіжскай вуліцы, падараваны гораду Радзівіламі. У інвентары 1747 г. пры апісанні гэтай вуліцы аб ім ужо не ўпамінаецца. Да 17 ст. належыць будынак, рэшткі якога адкрытыя нашымі раскопкамі 1982—1983 гг. каля ўсходняга краю плошчы (мал. 5). На глыбіні 0,9 м ад дзённай паверхні выяўлены цагляны мур, які пасля дэталёвага абследавання аказаўся рэшткамі сутарэння вялікага будынка з цыліндрычным скляпеннем. Захаваліся дзьве сцяны вышынёй каля 1,8 м і пяты скляпення. Па іх можна ўстанавіць прыблізную вышыню апошняга — яна складала каля 2,1 м. Частка паўднёвай сцяны (вышэй сутарэння) выкапана з каменя, але галоўным будаўнічым матэрыялам у дадзеным выпадку была цэгла. Яе памеры: 28×13,5×6 см; ?×13××6,5 см; ?×13,5×6,5 см; ?×13×4,5 см.

Рэшткі драўлянай падлогі выяўлены на глыбіні прыблізна 3,55 м ад дзённай паверхні. Шырыня сутарэння (на ўзроўні падлогі) каля 3 м. Магчыма, у будынку было не адно сутарэнне, бо ў шурфе за паўднёвай сцяной (хоць на ёй не выяўлена пята скляпення) знойдзены рэшткі падлогі, а на падлозе — цэлы керамічны кубак 17 ст.

Пакуль не вызначана прызначэнне гэтага будынка. На жаль, з прычыны цеснай забудовы (нашыя шурфы ўціснуліся паміж крамай «Сельгаспрадукты» і гаспадарчым будынкам) не ўдалося ўскрыць пабудову цалкам. Магчыма, на афіцыйны характар будынка і адносіны яго да ўладальніка паказваюць знаходкі фрагментаў кафлі 17 ст. з выявай радавога знака Радзівілаў — арла з трыма паляўнічымі ражкамі на грудзях. Спакусліва назваць яго мірскай ратушай. На гэта паказвае кампазіцыйнае размяшчэнне пабудовы якраз пасярэдзіне паміж асноўнымі архітэктурнымі дамінантамі горада — Траецкай царквой і Мікалаеўскім касцёлам. Аднак апісанне ратушы ў інвентарах 18 ст. не зусім стасуецца з гэтым месцам. У інвентары 1747 г. апісанне горада пачынаецца ад Нясвіжскай брамы да касцёла, затым апісваецца рынак: «...рынак брукаваны, на ім пасярэдзіне дзьве крамы са

склепамі, у адным печ. На гэтым жа рынку далей стаіць мураваная ратуша, у якую ўваходзяць ад брамы менскай (? — неразборлівае слова)» [106].

Выклікае цікавасць знаходка ў 60 м на паўднёвы ўсход ад касцёла горна для абпалу керамічных вырабаў 2-й паловы 17 ст. і побач з ім рэштказў будынка таго ж часу (мал. 6—7). Ад будынка захаваўся падмурак вышынёй 0,5 м, пакладзены на гліне з камянёў памерамі ад




6. План раскопу рэштказў будынка 2-й паловы 17 ст. з кафлянай печкай (раскоп 3 — 1984 г.). *I* — план раскопу 3; *II* — сістэма муроўкі тулава кафлянай печы; *III* — разрэз А—А; *IV* — разрэз В—В

0,2—0,25 м да 0,65 м у папярэчніку. У квадраце 1 паверх падмурка захаваўся рад цэглы на вапнавай рошчыне. Памеры цэглы: 27,5×12×6,5 см (пальчатка); 27×12××6,5 см. Каля мура траплялісяя вуглі. Па ўсёй верагоднасці, дом быў драўляным, у адваротным выпадку знаходак фрагментаў цэглы было б значна больш. Выяўленне падмурка будынка — сама па сабе звычайная справа, але ў межах падмурка адкрыта збудаванне, якое надае знаходцы адценне сенсацыйнасці. Гэта ніжняя частка кафлянай печкі 2-й паловы 17 ст. Яна захавалася на

[106] ЦДГА РБ у Мінску, ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 2455/2, л. 83.

вышыню 0,98 м. Складзена з цэглы (27,5×13,5×8,5 см; 28×?×9 см) на гліне. У плане ўяўляе сабой прамавугольнік: знешнія памеры — 1,11×1 м, унутраныя — 0,65× ×0,65 м. Ва ўсходняй сценцы печкі знаходзіцца арачны праём. У працэсе разборкі шчыльнага завалу бітай цэглы выяўлены некалькі фрагментаў керамічнага посуду 17 ст. Датаванне печы і ўсяго будынка вызначана па знойдзенай «in situ» у самым нізе развалу цэлай гзымсавай кафлі 2-й паловы 17 ст. з выявай хімер. Больш цэлых кафлін або хаця б буйных фрагментаў знайсці не ўдалося ні ў самім развале, ні вакол печкі. Па ўсёй верагоднасці, кафля, якая мела немалы кошт, была сабрана для другаразовага выкарыстання ў іншай печы. Пры разборцы завалу ў сярэдзіне печкі знойдзена шмат вуголля і дробныя фрагменты касцей. Под печы гліняны, ён ляжыць прама на мацерыковым пяску.

Каля паўднёва-ўсходняй сцяны ўнутры будынка выяўлена муроўка з фрагментаў цэглы, каменняў на гліне. Яна выканана ў форме прамавугольніка, адзін бок якога мае памеры 2м, другі ўскрыты толькі на даўжыню ў 0,6 м. Лагічна меркаваць, што гэта под другой, рабочай печы.

Годам раней знойдзены разбураны горан для абпалу керамічных вырабаў (мал. 7). Ён размешчаны ў пяці метрах ад будынка за яго паўночна-ўсходняй сцяной. Культурны слой у гэтым месцы мае таўшчыню 1,4—1,6 м. У жоўтым мацерыковым пяску выкапана яма глыбінёй 0,8—1 м, дыяметрам прыблізна 3,6 м, а ў яме збудаваны горан. Ад яго захаваліся ніжняя частка тулава і «дзядок» — слупок у цэнтры, які трымаў перакрыцце. Наяўнасць слупка сведчыць аб тым, што горан быў двухкамерным: ніжняя ўяўляла сабоў печку, куды закладвалася паліва; верхняя служыла для абпалу керамікі, і сюды загружаўся посуд, кафля і інш. На дзядок абапіралася перакрыцце паміж камерамі, у якім былі адтуліны люхты, «слёзы» для агня. Горан круглы ў плане, дыяметрам 2 м, рэшткі сцен захаваліся на вышыню да 0,36 м, перамычка паміж камерамі разбураная, таму цяжка вызначыць, была камера для абпалу адкрытай ці закрытай.

Дзядок захаваўся цалкам, ён складзены з 10 штук цэглы-сырца, пакладзенай крыж-накрыж. Памеры цэглы: 28,5×14,5×7,5 см; 27,5×14,5×8 см; 27,5×14×7,5 см; 27,5×14,5×7,5 см; 28×14×8 см. Слупок мае форму ўсечанага конуса (дыяметр верхняй часткі — 0,58 м, ніж-




7. Раскопкі рэштак горна 2-й паловы 17 ст. для абпалу керамікі (раскоп 2 — 1983 г.). *I* — план раскопу 2; *II* — профілі раскопу 2; *III* — разрэз горна

кяй — 0,66 м, вышыня — 0,55 м) і абмазаны слоем гліны таўшчынёй 2—3 см. У сярэдзіне і вакол горна ў яме шчыльная ўтрамбаваная гліна, на ёй слой вугалля таўшчынёй 1—1,5 см. Па знаходках фрагментаў керамічнага посуду на подзе горна акрэслены час яго існавання і функцыяніравання — 2-я палова 17 ст. Блізкае суседства горна да знойдзенага будынка дазволіла выказаць меркаванне, што мы маем справу з сядзібай ганчара — прадстаўніка адной з найбольш распаўсюджаных прафесій у Міры.

Пад час правядзення траншэі пад водаправод у 1987 г. па ўзбочынах вуліц Першамайскай (былая Слонімская) і Чырвонаармейскай (былая Віленская) былі выяўлены рэшткі Слонімскай і Віленскай брам. У 1988 г. намі праведзена археалагічнае даследаванне Віленскай брамы і распачаты пошукі Менскай брамы на вуліцы 17 верасня (былая Менская). Акрамя таго, зроблена спроба прарэзкі абарончага вала ў заходняй частцы пасёлка каля вуліцы Ленінградскай (былая Завальная). Паколькі планіроўка Міра вызначаецца стабільнасцю на працягу некалькіх стагоддзяў і вуліцы захавалі свой накірунак, асноўны аб'ём брам знаходзіцца пад праезджай часткай. Удалося ўскрыць толькі бакавую сцяну Віленскай брамы, якая прыйшлася якраз на ўзбочыну. Паралельна дарозе ўшчыльную да асфальту была закладзена траншэя (№ 3) і ўскрыта бакавая сцяна Віленскай брамы (мал. 8). Яе даўжыня — 10,9 м, шырыня — 1,9 м. Захаваўся падмурак, выкладзены з цэглы на вапне з увядзеннем у муроўку буйных камянёў, а таксама 1—2 рады цэглы з муроўкі сцяны. Край сцяны бліжэй да дарогі часткова разбураны траншэяй водаправода, гэтаксама як і муроўка сцен, якія ідуць упоперак дарогі. Глыбіня залягання падмурка — 2,4 м — выяўлена шурфам, закладзеным каля кута брамы. Тут у падмурку маецца выступ вышынёй 0,8 і шырынёй 0,7 м. Адлегласць паміж унутранымі паверхнямі сцен, якія залягаюць упоперак дарогі, складае 7,3 м. Таўшчыня адной з іх (вонкавай) — 1,5 м, унутранай — 1,6 м. Найстаражытны матэрыял (кафля), знойдзены пад час выбаркі археалагічнай траншэі, належыць да 1-й паловы або сярэдзіны 17 ст. Пацвярджае і ўдакладняе матэрыялы раскопак інвентар Мірскага графства за 1747 г.[107] «Брама Віленская мура-

[107] ЦДГА РБ у Мінску, ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 2455/2, л. 23—24.

ваная са старым скляпеннем (гэтай звестцы цалкам адпавядае глыбіня падмурка — 2,4 м.— *А. К.*) месцам выпадзеным... на другім паверсе пакой, у якім два вакны, адно велькае, другое меньшае, вокны без шыбаў і рамаў, дзвярэй таксама ніякіх няма і на гэтым баку вежа без сходаў, у якой... жыллё калісьці было... на верху той брамы накрыцце гонтамі... наўкола той жа брамы асыпаўся мур. Варот няма, толькі адна палова старых варот...»[108] Навідавоку поўнае запусценне і закінутасць. Не ў лепшым стане ў сярэдзіне 18 ст. была і Менская брама. «Брама Менская мураваная без столі, толькі старыя бэлькі, у той браме з абодвух бакоў пакоі старыя без дзвярэй, сама (брама.— *А. К.*) зверху пакрытая гонтамі, гонт стары, апаўшы...»[109] Менская брама знойдзена




8. Раскопкі рэшткаў Віленскай брамы (траншэя 3 — 1988 г.). *I* — план траншэі; *II* — профіль Б; *III* — разрэз А—А

[108] ЦДГА РБ у Мінску, ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 2455/2, л. 24.
[109] Там жа.




9. Раскопкі рэшткаў Менскай брамы (траншэя 4 — 1988 г.). *I* — план траншэі; *II* — разрэз А—А

Табліца 4. **Памеры цэглы-пальчаткі з муроўкі Віленскай брамы**

| № п/п | Памеры (см) | Барозны кольkасць | шырыня | глыбіня | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 27,5×12,4×? | 2 | 0,7—1 | 0,2—0,3 | |
| 2 | 27,5×13,4×? | 7 | 0,7—1 | 0,1 | |
| 3 | 26,6×13×? | 3 | 1 | 0,1 | |
| 4 | ?×12,6×7,3 | 6 | 2,3—2,5 | 0,2 | |
| 5 | 27,5×12,5×6,4 | 4 | 1 | 0,3 | |
| 6 | 28×13,2×6,2 | 4 | 2,5—2,7 | 0,2 | |
| 7 | 27,4×?×5,7 | — | — | — | |
| 8 | ?×14×5,9 | 6 | 2 | 0,1 | |
| 9 | ?×14×5,5 | 5 | 2 | 0,2 | чорны колер (клінкер?) |
| 10 | ?×13,7×5,5 | 1 | 1,5 | 0,1 | |
| 11 | ?×13,4×5,6 | 2 | 1,5 | 0,2 | |
| 12 | ?×13,3×6,2 | 3 | 1,5 | 0,15 | |
| 13 | ?×13,7×5,2 | 9 | 1—1,8 | 0,12 | |
| 14 | ?×14,2×5,5 | 3 | 1 | 0,3 | выгнутая цагліна |
| 15 | ?×14,8×6 | 3 | 0,8—1 | 0,12 | |
| 16 | ?×14×6 | 2 | 1,5 | 0,2 | |
| 17 | ?×13,6×5,2 | 3 | 1—1,5 | 0,3 | |

каля перакрыжавання вуліц 17 верасня (былая Менская) і Танкістаў (былая Татарская). Асноўны яе аб'ём, таксама як і ў Віленскай, знаходзіцца пад праезджай часткай, і траншэя (№ 4) закладзена на ўзбочыне вуліцы 17 верасня. Пад слоем асфальту і брукоўкі адкрыты мур з каменняў, складзены на вапне ў тэхніцы бутавай муроўкі (мал. 9). Каменні маюць розныя памеры. У муроўку ўведзены цагліны, як цэлыя, так і фрагменты. Памеры цэглы: ?×12×8 см; ?×13×8 см; 30×?×10 см; ?×16××10 см. Выяўлены два фрагменты бракаванай цэглы, дэфармаванай у часе абпалу. Такім чынам, былі адкрыты рэшткі бакавой сцяны, якая ідзе паралельна вуліцы. Даўжыня сцяны — 8,7 м, шырыню высветліць не ўдалося, бо перашкаджала праезджая частка. З вонкавага боку брамы шурфам дайшлі да нізу падмурка — 2,1 м ад дзённай паверхні. Падмурак мае выступ на вонкавым куце брамы, відавочна, гэта рэшткі контрфорса. Асноўная маса знаходак, сабраных у час распрацоўкі траншэі, датуецца 17 ст., самая старажытная рэч належыць да 16 ст. (венца непаліванага гаршка).

Не праводзіліся археалагічныя даследаванні Слонімскай брамы, якая была адкрыта водаправоднай траншэ-

яй ў 1987 г. каля перакрыжавання вуліцы Першамайскай (былая Слонімская) і Першамайскага завулка (былая Завальная вуліца). Інвентар 1747 г. паведамляе аб гэтай браме: «Брама Слонімская мураваная без скляпення толькі балкі ўгары, на каторых быў пакой, усходы старыя ападшыя, два вакна без шыбаў і рамаў, няма ніякіх дзвярэй... сама пакрыта старымі гонтамі ўжо апаўшымі, варот ніякіх няма...»[110]

Пад час земляных прац у 1990 г. выяўлены рэшткі Нясвіжскай брамы, размяшчэнне якой можна было дакладна вызначыць без раскопак, бо яна магла быць толькі каля рэчкі. Брама знойдзена каля перакрыжавання вуліц Чырвонаармейскай (гэты ўчастак яе раней называўся Нясвіжскай вуліцай) і Піянерскай. У гэтым месцы Піянерская вуліца робіць каленца, на поўдзень ад Нясвіжскай вуліцы яна праходзіць па ўнутранаму ўскрайку неіснуючага ўжо вала, а на поўнач ад вуліцы Нясвіжскай — за валам. Якраз у прамежку і адкрыта брама, дакладна ў тым месцы, дзе ёй і належала быць. Інвентар пра яе кажа: «...брама мураваная гонтамі крытая... варот не мае...»[111] Той жа інвентар адзначае, што «...наўкол жа места самога паркан на вале...» У 1988 г. намі зроблена спроба прарэзкі вала ў заходняй частцы Міра каля былой вуліцы Завальнай (траншэя № 1). У гэтым месцы не захавалася ніякіх слядоў умацаванняў. Траншэя прарэзала частку вала і рова (мал. 10). Існуючая забудова перашкодзіла закласці траншэю даўжэй за 10 м. Вал насыпаны з аднароднай чырвонай гліны, відавочна, у адзін прыём, бо стратыграфія не выдзяляецца. На наш погляд, сведчаннем таго, што гліна насыпаная, а не мацерыковая, з'яўляюцца шматлікія вертыкальныя пражылкі пахаванага светла-шэрага слоя таўшчынёй 1—2 см і даўжынёй 15—20 см. Роў прасочваецца дастаткова выразна. З-за таго, што выступіла вада, не ўдалося вызначыць яго глыбіню. Запаўненне рова складаецца з двух пластоў. Верхні ўяўляе сабой светла-шэры слой са знаходкамі 19—пачатку 20 ст. Пад гэтым слоем на глыбіні 1,6—1,7 м ад дзённай паверхні прасочана гліна, такая ж, як у вале з пражылкамі светла-шэрага слоя. Відавочна, ніжні пласт запаўнення рова ўтварыўся ў час нівеліроўкі ўмацаванняў, калі верхняя частка вала зразалася ў роў. У месцы

---

[110] ЦДГА РБ у Мінску, ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 2455/2, л. 24.
[111] Там жа, л. 23.




10. Прарэзка часткі абарончага вала (траншэя 1 — 1988 г.). *I* — план траншэі; *II* — профіль Г

пераходу вала ў роў выяўлена аблямоўка з аднаго раду камянёў да 0,4 м у папярэчніку. Зразумела, на знівеліраваным вале не ўдалося выявіць ніякіх слядоў паркана.

Пад час пошукаў Менскай брамы была закладзена траншэя (№ 2) на значнай аддаленасці ад цэнтра паселішча каля перакрыжавання вуліцы 17 верасня з Ленінградскім завулкам (былая вуліца Роў). Брамы тут не знойдзена, але прасочаны культурны слой сярэднявечнай дарогі. Пад каменнай брукоўкай і падсыпкай з жоўтага пяску выяўлены цёмна-шэры пласт (0,15—0,25 м таўшчынёй) без знаходак. У ніжняй яго частцы прасочаны рэшткі насцілу з галля.

# МАТЭРЫЯЛЬНАЕ АСЯРОДДЗЕ СЯРЭДНЯВЕЧНАГА МІРАНІНА — РЭЧЫ ПОБЫТУ І ПРАЦЫ

У гэтай частцы працы гаворка пойдзе аб рэчах, здабытых шляхам археалагічных раскопак, аб масавай, сапраўды народнай матэрыяльнай культуры. Часта гэтыя рэчы — адзінае, што нам засталося ад многіх пакаленняў міран. На жаль, археалагічнаму вывучэнню недаступныя драўляныя вырабы, тканіны, скураныя рэчы, бо ў культурным слоі Міра не захоўваюцца арганічныя матэрыялы. Культурныя наслаенні паселішча і некаторыя знаходкі даволі падрабязна апісаны ў нашых артыкулах [112]. Трэба сказаць, што культурны слой Міра багаты на знаходкі, часам гэтае багацце перавышае ўсе магчымыя дапушчэнні. Так, на месцы найстаражытнага паселішча ў наслаеннях 17—18 стст. з аднаго пласта аднаго квадрата раскопу (2×2×0,2 м) мы збіралі да тысячы фрагментаў керамічнага посуду, не лічыўшы кафлю, шкло і г. д.

Археалагічныя даследаванні пасёлка ў 1982—1984, 1988 гг. (мал. 1; пад кіраўніцтвам А. К. Краўцэвіча), Мікалаеўскага касцёла ў 1987 г. (кіраўнік А. М. Кушнярэвіч) і 1989 г. (кіраўнік А. К. Краўцэвіч) дазволілі сабраць значную калекцыю рэчаў працы і побыту сярэднявечных міран. Стабільнасць планіроўкі вуліц і сядзіб на працягу соцень гадоў не парушана і зараз. Гэта, з аднаго боку, спрыяла правядзенню раскопак, з другога, стварала цяжкасці. Апошнія ўсе зводзіліся да таго, што на

---

[112] Кравцевич А. К. Исследование позднесредневековых поселений городского типа // Археологические открытия 1982 г. М., 1984. С. 362 (далей АО); Ён жа. Исследования в Гродненской области // АО 1983 г. М., 1985. С. 396—397; Ён жа. Исследования в Гродненской области // АО 1984 г. М., 1986. С. 345—346; Трусов О. А., Чернявский И. М., Кравцевич А. К. Архитектурно-археологические исследования Мирского замка и городского поселка Мир // СА. 1986. № 4. С. 216—235; Кравцевич А. К. Исследования в г. п. Мир Гродненской области // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. С. 141—144.

месцы сярэднявечнага паселішча працягваецца інтэнсіўнае жыццё і існуе даволі шчыльная забудова. Часам даводзілася закладваць шурфы прама на падворках або гародах міран. Спрыяльная для археолага акалічнасць, якая выходзіць з планіровачнай стабільнасці, заключаецца ў тым, што можна без усялякай разведкі дакладна вызначыць аптымальнае для раскопак месца. Праўда, каб высветліць гэтую акалічнасць, спатрэбілася некалькі гадоў даследаванняў. Сядзібы гараджан маюць форму, блізкую да выцягнутага прамавугольніка ці трапецыі, і вузкімі бакамі прамавугольніка звернутыя да вуліцы. Ля самой вуліцы размяшчаліся жылыя будынкі. За імі знаходзіліся двары, гаспадарчыя пабудовы, а яшчэ далей углыб сядзібы — гароды. Зразумела, што культурны слой адкладваўся галоўным чынам на падворках. Паколькі сядзібы размяшчаліся вельмі шчыльна, то ўтварыліся суцэльныя палосы культурнага слоя шырынёй каля 10—12 м. Гэтыя палосы залягаюць паралельна вуліцы на адлегласці 6—10 м ад яе. Каля самой вуліцы, дзе былі жылыя будынкі, слой перамешаны і насычаны рэшткамі пабудоў 19 — пачатку 20 ст., часта гэтыя месцы забудаваныя і зараз. На гародах жа культурнага слоя амаль зусім няма. Такая заканамернасць залягання культурнага слоя дапамагла нам атрымаць пэўную інфармацыю аб планіроўцы сядзіб у заходняй частцы паселішча. Зараз жылыя будынкі размешчаны як каля вуліцы Кірава (былая Высокая), так і ўзбоч вуліцы Ленінградскай (былая Завальная), а мяжа паміж сядзібамі праходзіць прыблізна пасярэдзіне адлегласці паміж гэтымі вуліцамі. Аднак раскопкі паказалі, што культурны слой на падворках сядзіб па вуліцы Кірава большы па таўшчыні і багацейшы на знаходкі, чым на сядзібах ля Ленінградскай вуліцы, жылыя дамы якіх знаходзяцца на месцы былога вала. Такім чынам, можна меркаваць, што ў сярэднявеччы сядзібы былі звернуты да вала тыльным бокам — гародам. Заканамернасць залягання культурнага слоя менш яскрава праяўляецца каля перакрыжавання вуліц, бо тут сядзібы выходзілі адразу на дзьве вуліцы.

Стараючыся трапляць сваімі раскопамі і шурфамі на паласу самага значнага і багатага на знаходкі культурнага слоя, нам удалося выявіць разнастайныя рэчы, якія належалі сярэднявечным міранам.

## 1. МЕТАЛІЧНЫЯ ВЫРАБЫ

Жалеза ў сярэднявеччы каштавала дорага і яго абыдзе не раскідвалі. Таму і сярод нашых знаходак яго нямнога. Гэта галоўным чынам згубленыя рэчы. Сярод іх абутковыя падкоўкі, цвікі, скабянка, нажы. Варта выдзеліць баявую сякерку, знойдзеную ў слоі 17 ст., і прыладу, прызначэнне якой не вызначана (мал. 11:*4*). У ёй маецца ўтулка для чаранка. Вырабы з каляровых металаў прадстаўлены меднымі і білонавымі манетамі.

Самую шматлікую катэгорыю металічных вырабаў складаюць цвікі. Іх форма вызначалася стабільнасцю на працягу ўсяго сярэднявечча, таму ўзнікаюць цяжкасці з датаваннем. Даводзіцца ўжываць шырокае датаванне або «звужваць» яго з дапамогай стратыграфіі. Знойдзеныя цвікі маюць буйную плешку, доўгую прамавугольную ў сячэнні рабочую частку і належаць галоўным чынам да будаўніча-мацавальных (мал. 11:*2*). Ёсць і намнога меншыя па памерах падкоўныя цвікі.

Даволі шмат знойдзена абутковых падковак (24 цэлыя і фрагменты). Параўнаўчая шматлікасць гэтых рэчаў сведчыць і аб іх распаўсюджанасці ў побыце і аб ашчаднасці міран да свайго абутку. Самыя старажытныя з падковак (канец 15—16 ст.) зроблены з прамавугольнай пласціны (шырынёй 1,5—2,5 см, таўшчынёй да 0,5 см), сагнутай у дугу. На верхнім рабры гэтай дугі маюцца тры мацавальныя шыны (мал. 11:*7*). Вырабляліся падкоўкі з мяккага жалеза і многія з іх моцна сцёртыя ў выніку працяглага карыстання. Эвалюцыя формы падковак ішла шляхам памяншэння вышыні і павелічэння шырыні пласціны (мал. 11:*8—12*). Такая эвалюцыя адбывалася на працягу 17 ст. Нарэшце, падкоўкі становяцца зусім плоскімі, шыпы знікаюць, замест іх з'яўляюцца адтуліны для мацавальных шыпоў. Разам з падкоўкамі для шырокіх абцасаў знойдзены і маленькія, прызначаныя засцерагаць ад зносу вузкія абцасы. Форма вырабу заставалася незалежнай ад памераў.

Амаль цэлы нож, які меў прыкляпаныя тронкі, датуецца 17—18 стст. (мал 11:*1*).

Да таго ж часу належаць знаходкі дзвярных прабояў і фігурных завесаў (мал 11:*3, 6*); 18—19 стст. датуецца шпора (мал 11:*13*).

У культурным слоі Міра ў ходзе раскопак знойдзена 9 асобных манет і два скарбы: адзін з 93, другі з 4 манет




11. Вырабы з чорнага металу, косці і каменю. *1* — нож 17—18 стст.; *2* — цвік 16—17 стст.; *3* — дзвярны прабой 17—18 стст.; *4* — выраб невядомага прызначэння 16—17 стст.; *5* — цуглі 18—19 стст.; *6* — дзвярная завеса 17—18 стст.; *7—12* — абутковыя падкоўкі (*7* — канец 15—16 ст., *8—10* — 16—17 стст., *11—12* — 17—18 стст.); *13* — шпора 18—19 стст.; *14* — тачыльны брусок 16—18 стст.; *15* — каменнае ядро (?); *16—17* — фрагменты касцяных рукаятак 17—19 стст.

(гл. Дадатак). З 9 знойдзеных паасобку манет 7 — медныя соліды Яна Казіміра выпуску 1660—1666 гг., грош Аўгуста III эмісіі 1752—1755, 1758 гг. і грош Станіслава Аўгуста эмісіі 1765—1795 гг.

Скарбы знойдзены амаль у адным месцы, там, дзе было найстаражытнае паселішча. Абодва датуюцца апошнім дзесяцігоддзем 17—1-й паловай 18 ст. Першы скарб складаўся з 93 медных солідаў Рэчы Паспалітай Яна Казіміра 1660—1661, 1663—1666 гг., другі — з двух талераў Нідэрландаў (пад уладай Іспаніі) Філіпа IV 1633 і 1647 гг., шасцігрошавіка Рэчы Паспалітай Яна Казіміра 1665 г. і прускага шасцігрошавіка Фрыдрыха-Вільгельма I 1686 г.[113]

## 2. КЕРАМІКА

Фрагменты керамічнага посуду — самыя шматлікія знаходкі ў Міры.

Паводле распрацовак спецыяліста па беларускай сярэднявечнай кераміцы Н. І. Здановіч ужо традыцыйным стаў падзел керамічнага посуду на непаліваны, паліваны і дымлены (мораны). Крытэрыямі такога падзелу з'яўляюцца асаблівасці тэхналогіі вырабу і апрацоўкі паверхні начыння.

Мы не імкнуліся складаць, як гэта звычайна прынята, са знойдзенага мірскага посуду табліцы з выдзяленнем тыпаў і варыянтаў формы венцаў. Абмяжуемся агульным яго апісаннем, паколькі дэталёвую класіфікацыю, на наш погляд, варта рабіць на падставе матэрыялаў рэгіёна, а не аднаго ўзятага асобна помніка.

Па свайму прызначэнню посуд падзяляўся на кухонны і сталовы, акрамя таго, выраблялася спецыяльнае начынне для захоўвання і транспартыроўкі прадуктаў.

Паліваны і дымлены посуд больш якасны за непаліваны. Першы з'яўляецца на Беларусі ў канцы 15 ст., другі — у канцы 16 ст. Да гэтага часу ў побыце панавала непаліванае начынне. Са з'яўленнем паліванага і дымленага посуду непаліваны выкарыстоўваўся галоўным чынам у якасці кухоннага.

У асартымент непаліванага начыння ўваходзілі ў першую чаргу гаршкі (мал. 12:*1—9*), макацёры (макот-

---

[113] Вызначэнне І. І. Сінчука. Падрабязна аб скарбах гл. Дадатак.

ры, мал. 12:*10*), міскі (мал. 12:*11, 18*), накрыўкі (мал. 12:*17*). Сярод іх накрыўкі-талеркі мелі двайное прызначэнне — як накрыўкі патэльняў і гаршкоў, а калі перавярнуць — то талеркі (мал. 12:*12—16*), гладышы (мал. 12:*20*), радзей кубкі (мал. 12:*19*). Паверхня часткі непаліванага начыння падвяргалася дадатковай апрацоўцы ў спецыяльным растворы — «абвары», «пажозе». Выклікае цікавасць знаходка фрагмента гаршка 1-й чвэрт-




12. Непаліваная кераміка. *1—9* — гаршкі (*1—2* — 17 ст., *3—4* — 16 ст., *5* — канец 15—16 ст., *6, 8* — канец 16—17 ст., *9* — 1-я чвэртка 2-га тысяч. да н. э.); *10* — макацёр 16—17 стст.; *11* — міска 16—17 стст.; *12—16* — накрыўкі 17—18 стст.; *17* — накрыўка 16—17 стст.; *18* — міска з ручкай 17—18 стст.; *19* — донца кубка 17—18 стст; *20* — венца збана 17—18 стст.; *21—22* — люлькі 17—18 стст.; *23—24* — падсвечнікі 16—17 стст.; *25* — грузіла (?); *26* — рукамый 16—17 стст.

кі 2 тыс. да н. э. (вызначэнне М. М. Чарняўскага, мал. 12:*9*).

Калі сярод непаліванага посуду асноўную частку складалі гаршкі, то сярод паліванага начыння пераважалі талеркі і міскі — сталовыя прыборы. Набор паліванага посуду складаўся з названых ужо місак, талерак (мал. 13), а таксама з гаршкоў (мал. 14:*1—11*), макацёраў (мал. 14:*12—14*), збаноў (мал. 14:*23*), кубкаў (мал. 14:*17, 20—22*), рынак (мал. 14:*15, 16*), бутэлек (мал. 14:*26*) і іншых больш рэдкіх рэчаў. З усяго гэтага начыння ў сучасным жыцці беларусаў невядомыя толькі рынкі. Так называліся патэльні на трох ножках і са спецыяльнай утулкай, у якую ўстаўлялі драўляную ручку, каб паставіць або дастаць рынку з печы. Паліванае на-




13. Паліваныя міскі і талеркі 2-й палозы 16—13 ст. *1, 4, 11, 13—16* — карычневая паліва; *3, 6—8, 10, 17* — зялёная паліва; *12* — вохрыстая паліва; *5, 9* — распіснае начынне

чынне часта ўпрыгожана арнаментам, часцей за ўсё хвалістым, ёсць і распісны. Для паляпшэння рабочых вартасцей посуду (трываласць, утрыманне вадкасці) ужывалася паліва зялёнага (больш ранняя) і карычневага колераў розных адценняў. Палівай пакрывалася ў першую чаргу ўнутраная рабочая паверхня, а часта і знешняя, прычым часам толькі верхняя яе палова.




14. Паліваная кераміка, маёліка. *1—11* — гаршкі 16—17 стст.; *12—14* — макацёры 17—18 стст.; *15—16* — рынкі 16—17 стст.; *17, 20—22* — кубкі 17—18 стст.; *18* — падсвечнік 16—17 стст.; *19* — падсвечнік 17—18 стст.; *23* — збан 18—19 стст.; *24* — начынне з ручкай 17—18 стст.; *25* — распісная міска 17—18 стст.; *26* — бутэлька 17—18 стст.; *27* — фрагмент цацкі 17—18 стст.; *28* — донца дробнага начыння 17—18 стст.; *29* — патэльня 17—18 стст.; *30, 31* — фрагменты рэйнскай керамікі (*30* — 16—17 стст., *31* — 18—19 стст.); *32—33* — люлькі 17—18 стст.; *34* — фрагмент маёлікавай талеркі 18—19 стст.; *35* — начынне з ручкай; *1, 2, 6, 7, 9—21, 23—24, 26, 28, 29, 32, 33* — зялёная паліва; *3—5, 8, 27, 31* — карычневая паліва; *22* — маёліка — ружовая паліва, *34* — маёліка — белая паліва; *30* — сіні фон, белая выява; *23* — раскопкі А. М. Кушнярэвіча

Невялікая колькасць фрагментаў належыць да так званай рэйнскай керамікі — посуду, пакрытаму салянай глазурай, які прывозіўся на Беларусь з берагоў Рэйна (мал. 14:*30, 31*).

Дымлены (мораны посуд) атрымліваўся з дапамогай спецыяльнага абпалу ў закрытым горне без доступу кіслароду. Ён мае цёмны, блізкі да чорнага колер. Яго асартымент складаўся з гаршкоў (мал. 16:*7, 8*), макацёраў (мал. 15:*1—4*), збаноў (мал. 16:*1—4*), глёкаў (мал. 16:*5, 6*), місак, талерак (мал. 15:*5—13*), кубкаў. Мораны




**15. Дымленыя макацёры, міскі, талеркі 17—18 стст.** *1—4* — **макацёры**; *5—8* — міскі; *9—10, 12, 13* — паўміскі; *11* — талерка; *1* — раскопкі А. М. Кушнярэвіча

посуд часта пакрываўся ўзорамі ў выглядзе елачак, ромбаў, выкананых шляхам лашчэння.

Хоць звычайна ў культурным слоі беларускіх гарадоў і мястэчак непаліванага посуду трапляецца больш, чым астатняга, у Міры ў вялікім шурфе на вуліцы Кірава (былая Высокая) назіраўся іншы малюнак. Тут у насланнях 2-й паловы 17—18 ст. паліванага і дымленага посуду знойдзена значна больш за непаліваны Можа гэта




16. Дымленыя керамічныя вырабы 17—18 стст. *1—4* — збаны; *5—6* — глёкі; *7—8* — гаршкі; *9* — донца начыння з дзіркай; *10* — кубак; *11* — цацка-свісток

звязана з тым, што гэтыя ўчасткі былі занятыя яўрэйскім насельніцтвам.

Увогуле, узяўшы пад увагу колькасць і разнастайнасць знаходак керамічнага начыння, можна смела сцвярджаць, што набор посуду сярэднявечнай міранкі па сваму багаццю і разнастайнасці асартыменту не толькі не саступае, але нават перавышае кухонны скарб сучасных гаспадынь.

Вялікая калекцыя мірскай сярэднявечнай кафлі здзіўляе багаццем і разнастайнасцю арнаментальных сюжэтаў. Частка яе ўжо апублікаваная разам з замкавымі

матэрыяламі[114]. У адрозненне ад замкавай калекцыі ў пасёлку мала знойдзена дарагой паліхромнай кафлі. Гэта зразумела, бо міранам немагчыма было параўнацца заможнасцю з Радзівіламі — адным з багацейшых у Еўропе родаў.

Да гаршковай кафлі належыць невялікая колькасць фрагментаў. Акрамя добра вядомых відаў з прамавугольным і круглым вусцем, маецца больш рэдкая кафля з вусцем, афармленым у выглядзе разеткі. Усе знойдзеныя гаршковыя кафліны датуюцца 16 ст. Да 2-й паловы 16 ст. належыць некалькі фрагментаў карабковай кафлі. Асноўная маса знаходак адносіцца да 17 ст. У гэтым стагоддзі адбыўся найярчэйшы росквіт кафлярскай справы на Беларусі, другога такога відаць ужо не будзе. Знаходкі з раскопак Міра і Мірскага замка — адно з пацвярджэнняў гэтага росквіту. Кафляныя печы ў 17 ст. набылі складаную форму і, акрамя таго, што абагравалі памяшканне, з'яўляліся сапраўдным упрыгожаннем жылля. Асноўная паверхня тулава печы выкладвалася з так званых сцянных кафлін. Разам з імі выкарыстоўвалася гзымсавая кафля (адпаведна разам са сцяннай кутняй і гзымсавая кутняя), кафля-каронка, паясковая, кафля-перамычка.

Рэзчыкі формаў для кафлі ўпрыгожвалі свае выраьы раслінным, геаметрычным, зааморфным, геральдычным, рэлігійным арнаментам. Найбольш распаўсюджаным быў раслінны. Гэта выява гронкі вінаграду (мал. 17:*6, 8*), стылізаваныя раслінныя выявы, збудаваныя па прынцыпу чатырохчленнай сіметрыі (мал. 17:*12*), радзей трапляўся вядомы рэнесансны і барочны арнаментальны матыў — ваза з кветкай (мал. 17:*10*). Фантазія майстроў выявілася ў разнастайных выявах лісця аканфу (мал. 17:*11*), сцяблін, кветак, разетак, у тым ліку і на кафлі з дывановым арнаментам з 2-й паловы 17 ст.

Элементы расліннага арнаменту прысутнічаюць таксама і на зааморфных, геральдычных, рэлігійных выявах, у якасці, напрыклад, аблямоўкі радзівілаўскага арла або восі сіметрыі паміж выявамі пачвар і г. д.

Геаметрычны арнамент быў не такім распаўсюджаным. Выявы чатырох сіметрычных квадратаў, ромбаў

---

[114] Трусов О. А., Черняеский И. М., Кравцевич А. К. Архитектурно-археологические исследования Мирского замка и городского поселка Мир.

(мал. 18:*13, 14*), трохвугольнікаў (мал. 18:*12*) удала ўпісваліся ў кампазіцыю з іншымі кафлінамі.

Спецыфічна мірскім варыянтам арнаменту можна лічыць сіметрычныя выявы хімер — фантастычных істот. Падобныя выявы трапляюцца і ў іншых месцах, але мірскія хімеры нясуць на сабе адбітак індывідуальнасці мясцовага майстра. Яны ніяк не робяць уражання страшыдлаў, а, наадварот, выглядаюць зусім не страшна, нават сімпатычна (мал. 18:*8, 10*). Побач з імі знойдзены больш рэалістычныя выявы драпежнікаў (мал. 18:*7, 9*). Вельмі рэалістычна выканана выява рыбіны (мал. 18:*11*). Геральдычны арнамент прадстаўлены галоўным чынам рознымі варыянтамі радавога знака Радзівілаў — арла з трыма паляўнічымі ражкамі на грудзях (мал. 18:*2—6*). Такой кафлі знойдзена каля 20 фрагментаў, у той час як у замку знаходкі кафлі з арлом лічацца сотнямі. Магчыма, у пасёлку кафля з радавым знакам уладальніка выкарыстоўвалася ў афіцыйных будынках або меўшых непасрэднае дачыненне да Радзівілаў, напрыклад, ратушы або шпіталі, які быў падараваны гораду князем. Улічваючы значэнне, якое мела геральдычная выява ў сярэднявеччы, можна меркаваць, што наўрад ці які-небудзь гараджанін асмельваўся аздобіць сваю печку гербам князя, нават пры ўсім жаданні выказаць вернападданыя пачуцці.

Другім відам геральдычнага арнаменту з Міра з'яўляецца стылізаваны шляхецкі герб (мал. 18:*1*).

Па аналагах з замка ўдалося вызначыць фрагмент кафлі, на якой мелася выява анёла. 1-й паловай 18 ст. мы датавалі тэракотавую кафлю са складанай высокарэльефнай выявай (мал. 17:*14*), знойдзеную ў шурфе № 32 па вуліцы Кірава (былая Высокая).

У працэсе вырабу кафля часта пакрывалася зялёнай палівай, што павялічвала яе кошт. Яшчэ даражэй цанілася паліхромная кафля. На адзіным дробным фрагменце

17. Кафля: *1* — гаршковая з фігурным вусцем 15—16 стст.; *2—5* — кафлі-каронкі (*2* — канец 16—17 ст., *3—5* — 2-я палова 17 ст.); *6, 8* — сценная з выявай гронкі вінаграду, 17 ст.; *7, 9* — сценная і гзымсавая з раслінным арнаментам — 17 ст.; *10* — з выявай букета ў вазе — канец 16—17 ст.; *11* — гзымсавая з выявай лісця аканфу — 17 ст.; *12* — сценная з сіметрычным раслінным арнаментам — канец 16—17 ст.; *13* — дывановая — 2-я палова 17 ст.; *14* — сценная канца 17 — 1-й паловы 18 ст.; *2, 6, 7, 12—14* — тэракотавая; *10, 11* — зялёнапаліваная; *3—5, 9* — белая паліва; *8* — рэканструкцыя




18. Кафля з геаметрычным, зоаморфным, геральдычным арнаментам 17 ст. *4, 9, 11* — тэракотавая; *1—3, 5—8, 10, 12—14* — зялёнапаліваная

паліхромнай кафлі, які можна датаваць канцом 16—пачаткам 17 ст., захавалася выява часткі галавы арла карычневай палівы на жоўтым фоне. У шурфе № 32 па вуліцы Кірава знойдзена кафля з раслінным арнаментам: на фоне шэравата-белай палівы рэльеф салатавага колеру. Яна датуецца 2-й паловай 17 ст. (мал. 17:*9*), матэрыялаў больш ранняга перыяду тут увогуле няма.

Наўрад ці нашымі раскопкамі выяўлены ўвесь асартымент мірскай кафлі. Мы ўпэўнены, што новыя археалагічныя даследаванні будуць прыносіць новыя варыянты арнаментацыі гэтага, так добра засвоенага на Беларусі заходнееўрапейскага вынаходства.

Акрамя посуду і кафлі ў культурным слоі Міра трапляюцца керамічныя рэчы самага рознага прызначэння. Перш за ўсё гэта будаўнічыя матэрыялы: фрагменты цэглы (17—18 стст., радзей 16 ст.), дахоўкі плоскай (17 ст.) і хвалістай (канца 17—18 ст.) плітак падлогі. Сярод цэглы многа экземпляраў з баразнамі. Плоская дахоўка выраблялася прамавугольнай (?×14,5×2 см) або з адным скругленым краем, мела трохвугольны або паўкруглы мацавальны выступ. Некалькі фрагментаў дахоўкі пакрытыя зялёнай палівай. Пліткі падлогі большай часткай маюць прамавугольную ці шасцівугольную форму.

У наслаеннях 17—18 стст. трапляюцца гліняныя люлькі. Яны, як і посуд, вырабляліся тэракотавымі (мал. 12:*21, 22*), палiванымі (мал. 14:*32, 33*) і дымленымі. Падсвечнікі таксама былі тэракотавымі або пакрываліся зялёнай палівай (мал. 12:*23, 24*; мал. 14:*18*).

### 3. ВЫРАБЫ СА ШКЛА, КОСЦІ, КАМЕНЮ

Шкляны посуд быў неад'емнай прыналежнасцю побыту міран 16—18 стст. Ён пачаў уваходзіць ва ўжытак сярод беларускіх мяшчан дзесьці з канца 15—пачатку 16 ст. З'яўленне шклянога посуду — у поўным сэнсе сведчанне аб уздыме вытворчых сіл грамадства. Дабрабыт узрос настолькі, што мяшчане рознай ступені заможнасці маглі дазволіць сабе піць са шклянога начыння, больш далікатнага і вытанчанага за керамічнае.

Попыт на шкляны посуд задавальнялі мясцовыя беларускія мануфактуры, якія выпускалі начынне з зеленаватага і жаўтаватага празрыстага шкла. У пасёлку ў

адрозненне ад замка не знойдзена ні аднаго фрагмента венецыянскага посуду — сапраўднага атрыбута раскошы.

Шкляное начынне мела даволі вузкае прызначэнне — служыла для піцця і захоўвання розных напояў, а таксама выкарыстоўвалася як аптэчны посуд.

У 17—18 стст. міране мелі ў вокнах шкляныя шыбы прамавугольнай і круглай (мал. 19:*26—27*) формы. Акрамя таго, знойдзена дзьве шкляныя пацеркі.

У шурфах і раскопах, закладзеных па ўсёй тэрыторыі Міра, выяўлены некалькі відаў шклянога посуду: бутэлькі (мал. 19:*16—23*), бутлі, кварты (мал. 19:*1—4*), шкляніцы (мал. 19:*28—31*), чаркі (мал. 19: *6, 7, 14, 25, 38*), келіхі (мал. 19:*32—37*), шклянкі, кубкі (мал. 19:*8—13*). Бутэлькі маюць тулава цыліндрычнай формы і глыбока ўвагнутае дно, горлы іх каля венца ўпрыгожаныя наляпнымі адным ці двума пасамі; бутлі — начынне больш буйное за бутэлькі, але падобнае па форме. Кварты — прамавугольныя ў плане бутэлькі, у адной іх разнавіднасці вуглы сценак прамыя, у другой — скругленыя, прамавугольнае тулава заканчваецца невысокай шыйкай і венцам. На адной з мірскіх квартаў захавалася кляймо, на жаль, адбітак дрэнны і не чытаецца.

Келіхі (18 ст.) зроблены з бясколернага шкла, некаторыя з іх гранёныя, адныя маюць ножку, у другіх чаша пачынаецца адразу са стапы, у частцы паміж стапой і чашай маецца прыплюснуты «яблык».

Чаркі сфармаваны з зеленаватага шкла, донца ў адных — плоскае, цяжкае, у другіх — тонкае ўвагнутае, на некаторых больш позніх маецца рыфленне.

Вельмі цікавыя знаходкі звонападобных кубкаў з моцна адагнутым венцам (мал. 19:*8—13*) выяўлены А. М. Кушнярэвічам каля Мікалаеўскага касцёла. Увогуле ў ходзе даследаванняў па розных гарадах і мястэчках Беларусі, у тым ліку і Беларускага Панямоння, заўважана канцэнтрацыя знаходак шклянога посуду ў культурным слоі каля культавых пабудоў, як касцёлаў, так і цэркваў. Мір у гэтым сэнсе не выключэнне.

З каменных вырабаў у нашай калекцыі фрагменты тачыльных брускоў (мал. 11:*14*), з касцяных — два фрагменты тронак нажоў (мал. 11:*16, 17*). Як мы ўжо ўпаміналі, у культурным слоі Міра не захоўваюцца арганічныя рэчывы, таму значная частка матэрыяльнага асяроддзя сярэдневечнага міраніна засталася за межамі археалагічнага вывучэння. Трэба думаць, што частка




19. Вырабы са шкла. *1—4* — кварты 17—18 стст.; *5* — дно бутлі (?) 17—18 стст.; *6, 7, 14, 25, 38* — чаркі 17—18 стст.; *8—13* — звонападобныя кубкі 17—18 стст.; *15* — дно бутліка (?) 17—18 стст.; *16—23* — бутэлькі (*16* — 19 ст., *17* — 16—17 стст., *18—23* — 17—18 стст.); *24* — донца буйнога начыння 17—18 стст.; *26—27* — ваконнае шкло 17—18 стст.; *28—31* — шкляніцы 17—18 стст.; *32—37* — келіхі 17—18 стст.; *39* — кубак (?); *8—13* — раскопкі А. М. Кушнярэвіча

гэтая нямалая, бо вядома, якое месца ў жыцці беларуса займала і займае, напрыклад, дрэва.

Аднак і тое, што мы ўжо маем у выніку навуковых раскопак Міра, дазваляе меркаваць аб высокім узроўні цывілізацыі гэтага сярэднявечнага паселішча.



Пісьмовыя крыніцы раскрываюць перад намі карціну вірлівага жыцця сярэднявечнага Міра. Рамесная, гандлёвая дзейнасць, земляробства, цэхі, кірмашы, братэрствы — усё праявы гэтага жыцця, у якім хапала месца ўсім насельнікам, нягледзячы на веравызнанне і нацыянальнасць,— і беларусам, і татарам, і яўрэям.

Пісьмовыя крыніцы ўдала дапаўняюцца археалагічным матэрыялам, які дапамагае аднавіць матэрыяльнае асяроддзе сярэднявечных міран. Вельмі важным нам здаецца тое, што пісьмовыя дакументы з Міра і іншых падобных паселішчаў разам з археалагічнымі знаходкамі паказваюць нам менавіта народнае жыццё, народную (не элітную) матэрыяльную культуру.

Нельга поўнасцю і канчаткова вывучыць гісторыю нават невялікага паселішча, такога, як Мір. Не прэтэндуе на вычарпальнасць і наша праца. Наступным даследчыкам напэўна знойдзецца што дадаць і застаецца толькі пажадаць ім плёну.

# ДАДАТАК

## СКАРБЫ МАНЕТ З ГАРАДСКОГА ПАСЁЛКА МІР *

У ходзе археалагічнага вывучэння Міра ў 1982—1983 гг. экспедыцыяй пад кіраўніцтвам А. К. Краўцэвіча ў культурным слоі 17 ст. выяўлены два скарбы манет (мал. 20). Першы быў знойдзены ў 1982 г. і складаўся з 93 медных солідаў, другі (раскопкі 1983 г.) — з чатырох срэбных манет. Абодва скарбы адкрытыя амаль у цэнтры сярэднявечнага паселішча ў 30 м ад перакрыжавання галоўных вуліц. Другі скарб знаходзіўся на адлегласці ў 1,8 м ад першага. Медныя соліды знойдзены прыблізна ў 6 м ад краю вуліцы Першамайскай (былая Слонімская; магчыма невялікая розніца паміж шырынёй сучаснай вуліцы і старажытнай), скарб срэбных манет — на 1,8 м далей.




20. Сітуацыйны план і план раскопу

* Матэрыял падрыхтаваны А. К. Краўцэвічам, І. І. Сінчуком.

Па матэрыялах археалагічнага вывучэння гэты ўчасток горада — места найстаражытнага паселішча канца 14 ст.— быў найбольш шчыльна заселены і ў наступныя часы. Скарб медных солідаў знойдзены на глыбіні 1,45 м ад дзённай паверхні ў цёмна-шэрым слоі таўшчынёй каля 10 см, які змешаны з чырвонай глінай. Слой абпаленай чырвонай гліны зафіксаваны вышэй і ніжэй месца залягання скарбу. Верхняе наслаенне гліны мае таўшчыню каля 10 см, ніжняе — 6—8 см [1]. Манеты ляжалі двума слупкамі амаль аднолькавай вышыні. На паверхні крайніх захаваліся адбіткі тканіны. Рэдкія падрабязныя апісанні падобных прыёмаў укладання манет утрымліваюць этнаграфічныя матэрыялы [2].

Скарб срэбных манет таксама знойдзены ў цёмна-шэрым слоі, змешаным з чырвонай глінай, але на 15 см вы-

---

[1] Профіль раскопу, у якім знойдзены скарб, апублікаваны ў артыкуле А. А. Трусава, І. М. Чарняўскага, А. К. Краўцэвіча. Архитектурно-археологические исследования Мирского замка и городского поселка Мир Гродненской области // СА. 1986. № 4. С. 218. Рис. 2, IV.

[2] Па матэрыялах, сабраных І. І. Сінчуком у 1983—1987 гг., упакоўка манет слупкамі, якія складаліся з манет аднаго наміналу, бытавала на Беларусі яшчэ ў дарэвалюцыйны час. Часцей за ўсё для загортвання выкарыстоўвалася даматканая тканіна, радзей — скура, папера. Сярод 1300 беларускіх скарбаў адзначана 16, аб якіх дакладна вядома, што іх манеты загорнутыя ў тканіну. Захаваліся звесткі, што два скарбы ўтрымлівалі манеты «ў слупках» (інфармацыя В. Н. Рабцэвіча). Са знаходак апошніх гадоў можна адзначыць: скарб солідаў прыбалтыйскіх уладанняў Швецыі з вёскі Спарацічы Янаўскага раёна Брэсцкай вобласці, які знойдзены ў 1975 г. (852 манеты, слупкі, глінянае начынне; паведамленне дырэктара Пінскага краязнаўчага музея В. М. Лытнева); скарб медных солідаў і тынфаў Рэчы Паспалітай, знойдзены ў 1986 г. у вёсцы Палачаны Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці (больш 1700 манет, слупкі, тканіна, гаршчок); скарбік, адкрыты археалагам І. М. Чарняўскім (11 медных солідаў, слупок) у 1980 г. на падворку Мікалаеўскай царквы г. Магілёва; знаходку скарбу трохгрошавікаў, паўтарагрошавікаў і медных солідаў Рэчы Паспалітай, расейскіх срэбных капеек Пятра I у 1985 г. у вёсцы Строчыцы Мінскага раёна (каля 200 экземпляраў, слупкі); скарб солідаў Рэчы Паспалітай і прыбалтыйскіх уладанняў Швецыі з вёскі Балашэвічы Глускага раёна Магілёўскай вобласці, знойдзены ў 1984 г. (каля 300 манет, слупкамі); скарбік медных солідаў Рэчы Паспалітай, знойдзены ў 1986 г. у гарадскім пасёлку Любча Гродзенскай вобласці.

Верагодна, такі спосаб пакавання манет не з'яўляецца выключнай асаблівасцю былых земляў Рэчы Паспалітай перыяду позняга феадалізму. Напрыклад, вядома знаходка дзірхемаў на тэрыторыі РФ, якія былі складзены слупкамі (Фомин А. Ищем клады... // Советский музей. 1988. № 1. С. 49).

шэй скарбу медных солідаў. Тры манеты ляжалі на дне глінянага гаршка з адбітым верхам, адна — у 5 см ад гаршка. Гаршчок непаліваны, зроблены з чырвонай пасля абпалу гліны, яго аб'ём — 1,5—2 л. Чырвоны колер глінянай масы сценак начыння характэрны для керамікі 17 ст. і больш позняга часу.

Есць падставы меркаваць, што абодва скарбы былі схаваныя ў межах жылой пабудовы. На карысць такога меркавання сведчыць наступнае:

1. Слой, у якім знойдзены манеты, і папярэдні слой насычаныя абпаленай глінай і фрагментамі пячной кафлі 17 ст. На невялікай плошчы на месцы адкрыцця скарбаў знойдзена каля сотні такіх фрагментаў, якія былі ва ўжытку. Гэта можа паказваць на блізкі развал кафлянай печы.

2. На адлегласці каля 1,4—1,6 м на ўсход ад месца знаходкі і на 0,2—0,3 м вышэй размешчаны край каменнай брукоўкі 17 ст. Па ўсёй верагоднасці, гэта брукоўка двара гарадской сядзібы. Яна займала ўсю ўсходнюю частку раскопу. На краі брукоўкі выяўленыя рэшткі двух абгарэўшых бярвенняў, якія, відавочна, належалі да пабудовы, загінуўшай пад час пажару.

3. Адлегласць у 6—8 м ад вуліцы адпавядае звычайнаму месцазнаходжанню жылой забудовы познесярэднявечных беларускіх гарадоў і мястэчак.

Нам здаецца верагодным меркаванне, што абодва скарбы мелі аднаго гаспадара і, магчыма, гэта дзьве часткі аднаго скарбу. Манеты былі схаваныя, відавочна, у межах жылога дома каля кафлянай печы ці ў самой печы. Выпадкі такога захавання грашовых зберажэнняў вядомыя па знаходках скарбаў і этнаграфічным матэрыялам [3]. Печ у драўлянай пабудове — адзінае месца, дзе ў выпадку пажару можна зберагчы манеты ад агня і якое служыць арыенцірам на пажарышчы. Верагодна, падзеі, звязаныя з пажарам, перашкодзілі гаспадару забраць свае грошы з «хатняга сейфа», а разбураная печ пахавала пад сваімі абломкамі рэшткі гаршка з манетамі, якія ў час падзення рассыпаліся.

Срэбныя манеты прадстаўлены двума талерамі Нідэрландаў (пад уладай Іспаніі) Філіпа IV 1633 і 1647 гг.,

---

[3] Векслер А., Мельникова А. Московские клады. М., 1973. С. 240. № 205. Па этнаграфічных даных на Беларусі ў канцы 19 — пачатку 20 ст. шырока адзначаецца захаванне грошай у тулаве печы і пад ёй (запісы І. І. Сінчука 1983—1985 гг.).

Табліца 5. **Размеркаванне медных солідаў скарба па гадах і падтыпах**

| Дзяржаўны герб | Ініцыялы арандатара | Знак адказнага за выпуск | Год | Колькасць | Нумары па апісанню |
|---|---|---|---|---|---|
| Вялікага княства Літоўскага | TLB | K (герб Корвін) | 1660 | 2 | 1—2 |
| | | | 1661 | 2 | 3—4 |
| | | | — | 2 | 5—6 |
| | | KB (манаграма Іераніма Крышпіна) | 1664 | 1 | 9 |
| | | | 1665 | 6 | 10—15 |
| | | | 1666 | 13 | 16—28 |
| | | | — | 10 | 29—37 |
| | | W (герб Венява) | 1663 | 2 | 7—8 |
| | GFH | G (галава аленя, частка герба Іераніма Крышпіна) | 1666 | 4 | 38—41 |
| Каралеўства Польскага | TLB | S (герб Слепаўрон) | 1660 | 4 | 48—51 |
| | | | 1661 | 2 | 52—53 |
| | | | 1663 | 1 | 54 |
| | | | 1664 | 15 | 55—69 |
| | | | 1665 | 7 | 70—76 |
| | | | — | 13 | 77—89 |
| av+av | — | — | — | 1 | 93 |

якія білі ў Антверпене (знак «длань»), і дзвюма манетамі меншага наміналу. Адна з іх — 6 грошаў Рэчы Паспалітай Яна Казіміра Вазы 1665 г. з ініцыяламі AT, другая — пруські шасцігрошавік Фрыдрыха-Вільгельма I 1686 г. з ініцыяламі HS (мал. 21).

Шасцігрошавік пруcкага герцагства — малодшая манета. Па ёй абодва скарбы могуць быць датаваныя апошнім дзесяцігоддзем 17—1-й паловай 18 ст.

Медныя соліды Рэчы Паспалітай 1660—1661, 1663—1666 гг. Яна Казіміра, якія складаюць першы скарб, прадстаўлены амаль поўным наборам вядомых зараз падтыпаў і дат (гл. табл. 5). Усе соліды былі, відавочна, згорнутыя слупкамі ў тканіну, таму засталіся разам пры разбурэнні печы і раз'яднанні манет першапачатковага скарбу. Сярэдняя вага солідаў — 1,15 г, што дазваляе казаць аб іх задавальняючай захаванасці.

Працэнтны склад невялікага мірскага скарбу з добрай




21. Манеты скарбу. *1—2* — патагоны іспанскіх Нідэрландаў; *3* — шасцігрошавік Рэчы Паспалітай; *4* — шасцігрошавік Прусіі

Табліца 6. **Нумізматычныя**

| | IOAN° °CAS°REX° .°T°L°B° | °SOLI°MAG°DVC°LIT° 1°6°6°/° |
|---|---|---|
| 1 | ///// =CAS'REX= /////// | =SOLI///G=DVC/////<br>////6=0° |
| 2 | IOAN° =CAS°//X= °T°L°B° | ///LI/MAG/DVC°LIT=<br>1=6=6=0= |
| 3 | IOAN= ///////// =T°L°B= | //OLI°MAG°DVC°LIT<br>/////6=1= |
| 4 | IOAN° °CAS°REX= /T°L°B= | =SOLI°MAG DVC'LIT<br>°1=6=6=1° |
| 5 | IOAN° °CAS°REX= °T/L°B= | =SOLI°MAG°DVC/LIT<br>°1=6///// |
| 6 | IOAN° =C/////// °T///// | /////°MAG/DVC°LIT°1/<br>////// |
| 7 | ///// =CAS'REX= /G/F/H/ | //////MAG=DVC°L////<br>/////// |
| 8 | IOAN= =CAS'REX= /G/F/H° | =SOLI°MAG°DUC=LIT<br>°1=6=6=3= |
| 9 | IOAN° =CAS'REX= °T°L°B= | =SOLI°M////DVC=<br>LIT=1°6=6=4° |
| 10 | IOAN° =CAS'REX= °T°L'B= | =S////////DVC=LIT=<br>1=6=6=5= |
| 11 | IOAN= /CAS'REX= /T/L/B° | =SO///////DVC°LIT=<br>1=6=6=5= |
| 12 | I//// °CAS'REX= /T°L'B° | =SOLI°MAG°DVC°LIT<br>°1=6=6=5= |
| 13 | IOAN* /CAS/RE// =T°L°// | /SOLI/MAG°DVC/LIT<br>°1=6=6=5/ |
| 14 | ////° =CAS REX= ///// | //OLI°MAG°DVC°LIT<br>°1=6=6=5= |
| 15 | IOAN* =CAS°REX= /////// | =SOLI=MA////C/<br>LIT=1=6=6=5= |
| 16 | IOAN= //////EX= °T°L°B= | =SOLI°MAG°DVC°L///<br>//////6/ |
| 17 | IOAN= =CAS°REX= =T°L°B= | =SOLI°MAG°DVC°LIT<br>/1=6=6=6= |
| 18 | IOAN/ ///////// =T°L/// | ///////AG°DVC=LIT=<br>1=6=6=6/ |

апісанні медных солідаў скарбу

| °/° | Асаблі-васці | P | d | c. o. | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|
| =K= | | 1,36 | 16 | 1 | |
| =K= | | 1,12 | 17 | 10 | ссоўванне штэмпеляў |
| =K= | | 1,37 | 17 | 12 | |
| =K= | | 0,98 | 15 | 6 | |
| =K= | | 1,60 | 16 | 6 | |
| =K= | | 1,07 | 16 | 8 | дэфектны кружок |
| =W= | (D—VC) | 1,35 | 16 | 1 | на av сляды кантакту з тканінай |
| =W= | (D—UC) | 1,09 | 16 | 5 | |
| =KB= | | 1,17 | 16 | 2 | |
| °KB° | (LI°T) | 1,37 | 16 | 5 | |
| ◢ KB= | | 1,16 | 16 | 3 | |
| ♦KB= | | 1,12 | 16 | 10 | |
| =KB= | | 1,04 | 16 | 7 | |
| =KB= | | 1,02 | 15 | 12 | |
| °KB= | | 0,95 | 16 | 12 | |
| *KB* | | 1,24 | 16 | 1 | |
| *KB* | | 1,19 | 16 | 6 | |
| °KB° | | 1,04 | 16 | 6 | |

| | IOAN° | °CAS°REX° | °T°L°B° | °SOLI°MAG°DVC°LIT° °1°6°6°/° |
|---|---|---|---|---|
| 19 | IOAN* | ==CAS/REX= | °T°L/B= | //OLI°MAG/DVC°LIT= 1=6=6=6= |
| 20 | IOAN° | //AS°REX= | /////B° | =SOLI°M////VC/LIT= 1=6=6=6= |
| 21 | IOAN° | /CAS°REX= | °T°L°B= | =SOLI°MAG°DVC= LIT°1=6=6=6= |
| 22 | IOA// | =CAS/REX= | =T°L°B= | =SOLI°M/////C°LIT °1=6=6=6= |
| 23 | IOAN° | =CA////// | /////// | =SOLI°////////°LIT°1= 6=6=6= |
| 24 | IOAN/ | //AS/REX= | °T°L°B= | =SO//°MAG°DVC°LIT °1=6=6=6° |
| 25 | //AN° | /CAS///// | /////// | °SOLI°MAG//////////1= 6=6=6= |
| 26 | IOAN/ | /CA////// | °////// | °SOLI°MAG°DVC/LIT/ 1=6=6=6/ |
| 27 | IOAN° | ////////// | SOLI/// | //OLI°MAG°D////// /1=6=6=6/ |
| 28 | ///// | /CA////// | =T°L°// | =SOLI°////DVC°LIT// /6///// |
| 29 | /OAN= | =CA////// | ///L/// | /SOLI°MAG°DVC°LIT= 1=6///// |
| 30 | ///// | =CAS°R/// | /////// | ///LI°M////VC=LIT= 1=6=6/// |
| 31 | ///// | =CA////// | /////// | =SOLI°MAG°DV////// //////// |
| 32 | ///// | =CAS°REX= | ///L/// | //OLI=MAG°DVC°LI ////////// |
| 33 | IOAN/ | //////EX=° | °T°//// | =SOLI°MAG/DV/ ///////////// |
| 34 | IO/// | /CA////// | =T°L°B° | /SOLI///////////////// //// |
| 35 | //AN° | ///////// | /////// | =SOLI°MAG°DVC°/ /////////// |
| 36 | /OAN/ | =CA////// | /////// | =SOLI=MAG=DVC° °LI////////// |
| 37 | ///// | ///////// | /////// | /////////////////////// //// |
| 38 | /OAN= | =C/S°R/// | /////// | ////////G=DVC=LIT °1=6=6=6= |

| °/° | Асаблівасці | P | d | с. о. | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|
| =KB= | | 1,07 | 16 | 11 | |
| *KB/ | | 0,92 | 15 | 7 | |
| °KB° | малая | 1,15 | 15 | 7 | |
| =KB/ | малая | 1,32 | 16 | 7 | |
| =KB= | малая | 1,29 | 15 | 3 | |
| =KB= | малая | 1,12 | 16 | 4 | ссоўванне штэмпеляў |
| =KB= | малая | 1,35 | 16 | 4 | ссоўванне штэмпеля, дэфектны кружок |
| /KB/ | | 1,14 | 16 | 3 | ссоўванне штэмпеляў |
| /KB/ | | 1,24 | 16 | 8 | на av частка легенды rv |
| °KB° | | 1,05 | 16 | 4 | 1666 |
| *KB= | | 1,49 | 16 | 10 | |
| °KB° | | 1,17 | 15 | 2 | |
| *KB= | | 1,10 | 15 | 10 | дэфармаваная |
| =KB= | (OL°I) | 1,05 | 16 | 9 | на полі rv сляды апрацоўкі штэмпеля напільнікам |
| =KB= | | 1,03 | 16 | 1 | |
| =KP= | | 0,86 | 17 | 3 | дэфектны кружок |
| =KB= | | 1,18 | 16 | 2 | |
| =KB= | | 1,13 | 16 | 7 | |
| /KB/ | малая | 1,03 | 16 | 12 | |
| =G= | (D—VC) | 1,21 | 16 | 4 | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | IOAN° | CAS°REX° | °T°L°B° | °SOLI°MAG°DVC°LIT °1°6°6°/° |
| 39 | IO/// | =CAS°REX= | °G°F°H= | =SOL/////////////°1= 6=6=6= |
| 40 | IOAN/ | ///////X= | /G°F°H° | ///LI°M////VC=LIT= 1=6=6=6= |
| 41 | IOAN° | =CAS°REX= | °G°F°H/ | =SOLI°MAG°DVC°LIT °1=6=6=6= |
| 42 | IOA// | =CA////// | /////// | ///LI°MAG=DV/////// /////// |
| 43 | IOAN= | =CAS=REX= | =T°L°B° | =SOLI/MAG°DV///IT= 1=6=6/// |
| 44 | IOAN/ | /CAS°REX= | =T=L=B° | =SOLI°M///////////1= 6=6=5= |
| 45 | /OAN° | =CAS=RE// | /////// | =SOLI=MA///////IT /1/6/6/6/ |
| 46 | IOA// | =CAS=REX= | =T°L/B/ | //////MAG=DVC= LIT=1=6=6=6/ |
| 47 | *IOAN* | =CAS=REV* | *======= | =SOLI=MAGNI= DVX=L///////// |
| | IOAN° | °CAS°REX° | °T°L°B° | °SOLID°REGNI°(—) °POLONI°1°6°6°/° |
| 48 | IOAN° | =CAS°REX= | /////// | =SOLID°REGNI=(I)° POLON=°1=6=6=0= |
| 49 | IOAN° | °CAS°REX= | °T°L°B° | =SOLID°RIGNI=(I)= POLON=°1=6=6=0= |
| 50 | IOAN° | °CAS=REX= | °T°L°B° | *SOLID=REGN==(N)= POLON==1=6=6=0: |
| 51 | IOAN° | /CAS°REX= | =T°L°B° | °SOLID°REGNI=(I)= POLON=/1/////O— |
| 52 | IOAN° | /CAS°RE// | °T°L°B= | °SOLID°REGNI°(G)° POLO==:1=6=6=1= |
| 53 | IOAN° | =CAS/REX° | °T°L°B= | =S///D/REGN==(N)= POLONI°1=6=6=1= |
| 54 | /OAN° | =CAS°REX= | /T/L/B/ | =SOLID°REG==°(G)= POLO==°1=6=6=3° |
| 55 | IOAN° | =CAS°REX= | /T///// | °SOLI///EG===(G)= POLO==°1=6=6=4= |

| °/° | Асаблівасці | P | d | c. o. | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|
| =G= | (////) | 1,14 | 16 | 9 | |
| °G= | (////) | 0,99 | 16 | 10 | дэфектны кружок |
| =G= | (D—VC) | 0,65 | 16 | 7 | |
| =KP= | малая | 1,33 | 15 | 10 | сапраўднасць выклікае сумненні |
| /KP/ | | 1,48 | 17 | 12 | —»— |
| =KP= | | 1,07 | 16 | 3 | фальшывая |
| *KP* | | 1,24 | 15 | 12 | фальшывая, «конь з доўгімі нагамі» |
| *KP* | (LI⌋) | 1,14 | 15 | 1 | —»— |
| /// | (REV) | 0,93 | 16 | 6 | фальшывая |

| | Асаблівасці | P | d | c. o. | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|
| | | 1,38 | 16 | 3 | |
| | (RIGNI) | 1,24 | 15 | 10 | памылка ў легендзе |
| | | 1,23 | 16 | 12 | |
| | | 0,98 | 16 | 12 | дэфектны кружок |
| | | 1,21 | 16 | 2 | |
| | | 1,20 | 17 | 7 | дэфектны кружок |
| | | 0,91 | 16 | 12 | |
| | | 1,65 | 16 | 2 | |

| | IOAN° | °CAS°REX° | °T°L°B° | °SOLID°REGNI°(—)°<br>POLONI°1°6°6°/° |
|---|---|---|---|---|
| 56 | IOAN° | =CAS/REX= | °T°L°B° | °SOLID°REG==°(G)=<br>POLO==°1=6=6=4= |
| 57 | /OAN= | °CAS°REX= | /////B/ | °SOLID°REG===(G)=<br>POLO==°1=6=6=4= |
| 58 | IOAN° | ///S°REX° | °////// | /SOLID////==/(G)=<br>POLO==°1=6=6=4/ |
| 59 | IO/// | //AS°REX= | °T/L/B/ | °SO//////////////////<br>//1=6=6=4= |
| 60 | IOAN/ | /CAS°REX= | °T°L°B= | °SOLID///G===(G)=<br>POLO==°1=6=6=4= |
| 61 | IOAN° | =CAS///// | °T°//// | =SOLID°REG==°(G)=<br>POLO==°1=6=6=4° |
| 62 | IOAN° | =CAS///// | °T°//// | °SOLID°REG===(G)=<br>POLO==°1=6=6=4= |
| 63 | IOAN° | =CAS°REX° | °T°L/B° | °SOLID/REG==/(G)=<br>POLO==°1=6=6=4° |
| 64 | IOAN° | =CA////// | °T°L°// | /////D°REG==°(G)=<br>POLO==°1=6=6=4/ |
| 65 | IOAN/ | =CAS°REX= | °T°L°B° | ////////////////////0=<br>=°1=6=6/4/ |
| 66 | IOAN° | =CAS°REX= | °T°L°/° | °SOLID°PEG==°(G)=<br>POL/==/1=6=6=4° |
| 67 | IOAN° | °CAS°REX= | °T°L°B= | =SOLID°REG===(G)=<br>POLO==°1=6=6=4= |
| 68 | IOAN° | =C/////// | °T°L°// | =SOLID°REG==°(G)=<br>/OLO==°1=6=6=4° |
| 69 | IOAN° | =CAS°R/// | °T°L°B° | /SOLID/REG===(G)=<br>POLO==/////6=4= |
| 70 | IOAN° | °CAS°REX= | =T°L°B/ | /S///////G==°(G)=<br>POLO==°1=6=6=5° |
| 71 | IOAN° | °CAS°REX= | °T°L°B° | /SOLID/REG===(G)=<br>POLO==°1=6=6/5/ |
| 72 | I//// | /CAS°REX= | °T/L/B/ | /SOLID°REG===(G)=<br>POLO==°1=6=6=5= |
| 73 | IOAN° | ///////X= | °T°L°B° | =SOLID°RIG===(G)=<br>POLO==°1=6=6=5= |
| 74 | IOAN= | °CAS/REX=/ | /T/L°B/ | °SOLID°REG===(G)=<br>POLO==°1=6=6=5= |

| | Асаблівасці | P | d | c. o. | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|
| | | 1,40 | 17 | 10 | |
| | | 1,26 | 16 | 11 | |
| | | 1,24 | 16 | 6 | дэфектны кружок |
| | | 1,24 | 16 | 7 | |
| | | 1,20 | 16 | 8 | дэфектны кружок |
| | | 1,17 | 16 | 11 | |
| | | 1,15 | 16 | 2 | |
| | | 1,13 | 16 | 5 | |
| | | 1,11 | 16 | 7 | |
| | | 1,07 | 16 | 11 | ссоўванне штэмпеля |
| | (PEG) | 1,12 | 16 | 3 | зношаны штэмпель? |
| | | 1,01 | 16 | 11 | |
| | | 0,92 | 16 | 12 | |
| | | 0,78 | 16 | 1 | |
| | | 1,40 | 16 | 11 | |
| | | 1,37 | 16 | 6 | |
| | | 1,30 | 17 | 10 | дэфармаваная |
| | (RIG) | 1,07 | 15 | 5 | зношаны штэмпель |
| | | 1,04 | 16 | 4 | |

| | IOAN° | °CAS°REX° | °T°L°B° | SOLID°REGNI°(—)°<br>POLONI°1°6°6°/° |
|---|---|---|---|---|
| 75 | IOAN° | °CAS°REX= | °T°L°B° | °SOLID°REG===(G)=<br>POLO==°1=6=6=5° |
| 76 | IOAN/ | °CAS/REX= | °T°L°B= | °SOLID°REG==/(G)/<br>POLO==°1=6=6=5° |
| 77 | IOAN° | /CAS°REX= | /T///// | /SOLID°REGNI=(I)=<br>POLON=°1=6=6/// |
| 78 | IOAN° | =CAS°RE// | °T///// | /SOLID°REGNI=(G)°<br>PO///////////// |
| 79 | IOAN° | /CAS°REX= | /T°L°B/ | /SOL//////NI=(I)=<br>POLON=/1/6=6=// |
| 80 | IO/// | /CAS°REX= | =T°L°B° | /////////////////<br>POLON=°1=6=6/// |
| 81 | /OAN° | °CAS°REX= | /////// | /////D°REG===(G)=<br>POLO==°1=6=6/// |
| 82 | IOAN° | =CA////// | °T///// | °SOLID°REG===(G)=<br>POLO==°1=6=6//° |
| 83 | IOAN° | =CA////// | /////// | /////D°R/G==°(G)=<br>POLO==°1=6///// |
| 84 | IOAN° | ///////X= | °T°L°B° | /////////G===(G)=<br>POLO==°1/////// |
| 85 | IOAN° | =CAS///// | °T°L/B/ | =SOLID/REG==/(G)=<br>POLO==°1=6=6/// |
| 86 | IOAN° | °CAS°R/// | /////// | //OLID°REG===(G)=<br>POLO==°//////// |
| 87 | IOAN° | °CAS///// | /////// | /SOLID°REG===(G)=<br>POL//////////// |
| 88 | ///// | ///////// | /////// | ////////EG==°(G)=<br>POLO==°1=6=6/// |
| 89 | IOAN°° | =CAS°RE// | /T/L/// | =SOLID°RE//////////<br>///////////// |
| 90 | IOAN= | =CAS=REX= | =T°L°B= | °S//ID°REG===(G)//<br>//0==/1=6=6=4° |
| 91 | IOAN* | /CAS=RE== | ======= | *SOLID=REG///////<br>POIO===1///1/// |
| 92 | IOAN= | /////ARX | ======= | =SOLID/////////////<br>O===1=6===6° |
| 93 | IOAN° | ///////// | /////// | °NAOI/XƎЯ/SAↄ//////<br>//// |

**Умоўныя абазначэнні**

= — літара ці знак інтэрпункцыі адсутнічаюць, / — наяўнасць ці адсут захаванасці манетнага кружка, ° — кропка, P — маса манеты (у грамах), d — (—) — становішча геральдычнага знака ў легендзе.

| | Асаблівасці | P | d | c. o. | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|
| | | 0,99 | 16 | 4 | |
| | | 0,83 | 15 | 11 | |
| | | 1,16 | 16 | 12 | |
| | | 1,24 | 15 | 2 | |
| | | 1,22 | 16 | 7 | |
| | | 0,78 | 16 | 10 | |
| | | 1,22 | 15 | 5 | |
| | | 1,28 | 16 | 7 | |
| | | 1,20 | 16 | 7 | |
| | | 1,43 | 15 | 8 | ссоўванне штэмпеляў |
| | | 1,35 | 16 | 4 | дэфармаваная |
| | | 1,14 | 16 | 6 | дэфектны кружок |
| | | 1,11 | 16 | 9 | |
| | | 1,09 | 15 | 5 | на av «сетачка» ад кантакта з тканінай |
| | | 1,23 | 16 | 11 | дэфектны кружок |
| | | 0,92 | 16 | 5 | сапраўднасць выклікае сумненне |
| | (POIO) | 1,10 | 15 | 1 | фальшывая, легенда выкананая прымітыўна |
| | | 0,83 | 15 | 6 | фальшывая |
| | | 0,76 | 16 | 12 | «nummus incusi» |

апісання манет

насць літары або знака інтэрпункцыі не можа быць вызначана з-за дрэннай дыяметр (у міліметрах), с. в. — суадносіны восей па «гадзіннікавай» сістэме,

дакладнасцю прыбліжаецца да размеркавання манет па гадах вялікага Праснышскага скарбу (Польшча, больш за 17 тысяч солідаў) [4], аднак маюцца некаторыя адрозненні (мал. 22). У нашым скарбе мала каронных солідаў 1663 г. У комплексе такой велічыні можна было чакаць выяўлення 3—6 манет гэтага віду. Сярод солідаў Вялікага княства Літоўскага 1666 г. з ініцыяламі TLB — 40% з так званай малой манаграмай, 1665 г. прадстаўлены




22. Размеркаванне медных солідаў па гадах: а — Вялікага княства Літоўскага; б — Каралеўства Польскага. Суцэльная лінія — скарб з г. п. Мір, пункцірная — Праснышскі скарб

толькі разнавіднасцямі з вялікай манаграмай падскарбія.

Асноўны склад комплексу адлюстраваны ў табліцы 5 (85 манет). Акрамя сапраўдных манет маюцца 6 фальшывых, з іх з гербам Вялікага княства Літоўскага — 4, каралеўства Польскага — 2. Выклікае сумненне сапраўднасць двух солідаў княства і аднаго соліда каралеўства.

---

[4] Niemirycz W. Skarb boratynek z Przasnysza // Wiadomości numizmatyczne. 1973. Z. 2. S. 106.

# СПІС ЛІТАРАТУРЫ І КРЫНІЦ


## ДАКУМЕНТЫ

АВАК. Вильно, 1902. Т. 29; 1909. Т. 34. С. 35.

Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильна, 1867. Т. 3. С. 57.

Белоруссия в эпоху феодализма // Сб. док. и мат-ов. Мн., 1960. Т. 2. С. 290.

Литовская метрика. Т. 1, кн. 2 // Рус. ист. библиотека. СПб., 1903. Т. 20. С. 549—550, 1130, 1132—1133.

Русско-белорусские связи во второй половине XVII в. (1667—1686 гг.) // Сб. документов. Мн., 1972.С . 87.

Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II (1792—1796). Вильна, 1903.

ЦДГА РБ у Мінску, ф. 694, воп. 1, спр. 4, л. 6; спр. 143, л. 1—14 адв.; спр. 311, л. 65; воп. 2, спр. 1997, л. 11—20; спр. 4466, л. 8—10 адв., 110—111, 283—283 адв., 365; спр. 4467, л. 77; спр. 4959; л. 7, 9, 10, 16, 17, 83; спр. 9773, л. 74—82; воп. 4, спр. 1292, л. 11; спр. 1295, л. 36; спр. 1305а, л. 35, 46 адв., 47, 51, 56, 61, 62, 85, 101—103, 111, 112, 115, 119, 131, 432; спр. 1344, л. 2; спр. 1903, л. 3; ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 2443/1; спр. 2455/2, л. 23, 24, 83; спр. 2464, л. 110.

## ЛІТАРАТУРА

Бубноўскі Д. С. Гісторыя горадабудаўнічага развіцця г. п. Мір // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Мн., 1989. С. 136—141.

Бубновский Д., Кравцевич А., Трусов О. Мир // Неман. 1985. № 8. С. 141—146.

Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1972. Т. 1. С. 403.

Грицкевич А. П. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв.). Мн., 1979. С. 31—32.

Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVII вв. Мн., 1975.

Грицкевич В. П. Путешествия наших земляков. Мн., 1968.

Гурин М. Ф. Мир. Мн., 1985.

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гродзенская вобласць. Мн., 1986. С. 219.

Здановіч Н. І. Мірская бытавая кераміка // ПГКБ. 1983. № 3. С. 43—44.

Иодковский Н. Замок в Мире // Древности. М., 1915. Т. 6. С. 54—72.

Историко-статистическое описание Минской епархии. Спб., 1864.

Калнін В., Трэпет Л. Мірскі замак // ПГКБ. 1975. № 1. С. 26—32.

Калнин В. В. Мирский замок: Реставрация и приспособление // Строительство и архитектура Белоруссии. 1982. № 2. С. 26—27.

Калнин В. В. Мирский замок. Мн., 1986.

Козловский П. Г. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII—XVIII в. Мн., 1969. С. 178.

Кокс В. Путевые впечатления англичанина (1779—1785 гг.) // Русская старина. Спб., 1907. № 7—9.

Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии (XVI—XVII вв.) Мн., 1966.

Кравцевич А. К. Исследование позднесредневековых поселений городского типа // АО 1982 г. М., 1984. С. 362.

Кравцевич А. К. Исследования в Гродненской обл. // АО 1983 г. М., 1985. С. 396—397.

Кравцевич А. К. Исследования в Гродненской обл. // АО 1984 г. М., 1986. С. 345—346.

Кравцевич А. К. Исследования в г. п. Мир Гродненской области // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. С. 141—144.

Краўцэвіч А. К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV—XVIII стст.: Планіроўка, культурны слой. Мн., 1991.

Мальцев А. Н. Россия и Белоруссия в середине XVII века. М., 1974. С. 98.

Мараш Я. Н. Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII в. Мн., 1974. С. 203.

Митянин А. Я. Замок в Мире: Автореф. дис. ... канд. архитектуры. Мн., 1954.

Описание церквей и приходов Минской епархии. Мн., 1879. С. 92.

Пастернацкий Е. Предисловие к летописи Мирской Никольской церкви // Минск. епарх. ведомости. Мн., 1869. № 20.

Путевой дневник стольника П. А. Толстого 1697—1699 гг. // Русский архив. М., 1888. Т. 1. № 1—4.

Романовский Н. Р. Развитие мануфактурной промышленности в Белоруссии (вторая половина XVIII — первая половина XIX в.): Автореф. дис. ... д-ра. экон. наук. Мн., 1970. С. 18.

Рубинштейн С. Ф. Хронологический указатель указов правительственных распоряжений по губерниям Западной России, Белоруссии и Малороссии за 240 лет. Вильна, 1894. С. 152.

Ткачев М. А. Замки Белоруссии. Мн., 1987.

Ткачоў М. А. Замкі Беларусі. Мн., 1977.

Ткачоў М. А. Замкі і людзі. Мн., 1991.

Трусаў А. А. Археалагічныя даследаванні Мірскага замка // ПГКБ. 1980. № 4. С. 33—34.

Трусаў А. А. Кафля Мірскага замка // Помнікі старажытнабеларускай культуры. Мн., 1984. С. 157—162.

Трусаў А. А., Краўцэвіч А. К., Сагановіч Г. М. Металічныя вырабы з раскопак Лідскага і Мірскага замкаў // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1987. № 4. С. 73—83.

Трусаў А., Ляшкевіч А. Шкло Мірскага замка // ПГКБ. 1984. № 3. С. 42—43.

Трусаў А., Угрыновіч У. Паліхромная кафля Мірскага замка // Мастацтва Беларусі. 1983. № 3. С. 38—39.

Трусов О. А. Археологическое изучение архитектурных памятников Белоруссии // АО 1981 г. М., 1982. С. 362—363.

Трусов О. А. Работа архитектурно-археологической экспедиции // АО 1982 г. М., 1984. С. 371—373.

Трусов О. А., Чернявский И. М., Кравцевич А. К. Ар-

хитектурно-археологические исследования Мирского замка и городского поселка Мир Гродненской области ///СА. 1986. № 4. С. 216—235.
Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Мн., 1986. Т. 3. С. 636, 642.
Якимович Ю. А. Зодчество Белоруссии XVI — середины XVII в. Мн., 1991. С. 203—206.
Ястребицкая А. Л. Малые города как проблема сравнительно-исторического изучения европейского средневекового города // Средние века. М., 1988. Вып. 51. С. 58—79.
Abramowicz W. Strony nowogródzkie. Lida, 1938.
Aleksandrowicz S. Geneza i rozwój sieci miasteczek Bialorusi i Litwy do polowy XVII w. // Acta Baltiko-slawica. Bialystok, 1970. N 7. S. 78.
Baliński M. Historia miasta Wilna. Wilno, 1836. T. 1. S. 153—154.
Bartaszewicz J. Zamek Bialski. Lwów, 1881. S. 44.
Encyklopedia powszechna. Warszawa, 1864. T. 18. S. 644.
Korotyński W. Mir // Encyklopedia powszechna. Warszawa, 1864. T. 18.
Rewieńska W. Miasta i miasteczka w pólnocno-wschodniej Polsce. Wilno, 1938. S. 43.
Słownik Geograficzny Królewstwa Polskiego. Warszawa, 1885. T. 6. S. 485—486.
Szieżko A. Kościół farny w Mirze. Lida, 1937.
Syrokomla W. Wędrówki po moich niegdyś okolicach. Wilno, 1853. S. 42.
Zmigrodzki J. Nowogródek i okolice. Nowogródek, 1927.

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

АВАК — Акты Виленской археографической комиссии

АО — Археологические открытия

ПГКБ — Помнікі гісторыі і культуры Беларусі

ПСРЛ — Полное собрание русских летописей

СА — Советская археология

ЦДГА РБ — Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь

# ЗМЕСТ

Навуковае выданне

**Краўцэвіч Аляксандр Канстанцінавіч**
**Якшук Галіна Мікалаеўна**

**СТАРЫ МІР**

Загадчык рэдакцыі *Л. І. Пятрова*
Рэдактар *С. К. Лазар*
Мастак *А. Я. Анкуда*
Мастацкі рэдактар *Л. М. Гоманаў*
Тэхнічны рэдактар *В. А. Віценка*
Карэктар *Г. М. Малей*

Здадзена ў набор 25.06.92. Падпісана ў друк 13.04.93. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,62. Ум. фарб.-адб. 4,83. Ул.-выд. арк. 4,0. Тыраж 1080 экз. Зак. № 1311. Цана 45 р.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук Беларусі і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220141. Мінск, Жодзінская, 18. ЛВ № 437. Друкарня імя Францыска Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220141. Мінск, Жодзінская, 18.

**Краўцэвіч А. К., Якшук Г. М.**

К 78 Стары Мір.— Мн.: Навука і тэхніка, 1993. 85 с.: іл.

ISBN 5-343-01107-1.

Кравцевич А. К., Якшук Г. Н. Старый Мир.

У кнізе на аснове архіўных пошукаў, натурных абследаванняў архітэктурных помнікаў і шматгадовых археалагічных раскопак ўзнаўляецца аб'ёмная карціна жыцця невялікага сярэднявечнага горада.

Разлічана на гісторыкаў, архітэктараў, краязнаўцаў, усіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

**К $\frac{0503020903—058}{М 316(03)—93}$ 123—92** **ББК 63.3(2Б)**

**У выдавецтве**

**«НАВУКА І ТЭХНІКА»**

*рыхтуецца да друку*

А. К. КРАЎЦЭВІЧ

**ТЭЎТОНСКІ ОРДЭН:**
**АД ЕРУСАЛІМА ДА ГРУНВАЛЬДА**

Аб'ём 6 арк. Мова беларуская.
Арыенціровачная цана 25 р.

У папулярнай форме апавядаецца аб Тэўтонскім ордэне, адным з буйнейшых сярэднявечных духоўна-рыцарскіх згуртаванняў: утварэнні, структуры, гісторыі. Увага засяроджваецца на стасунках з беларуска-літоўскім гаспадарствам. Найбольш дэталёва асветлена Грунвальдская бітва, якая спыніла ўздым Тэўтонскага ордэна і павярнула яго да заняпаду.
Разлічана на ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

Папярэднія заказы накіроўваць на адрас:
*220141. Мінск, праспект Скарыны, 72.*
*Магазін «Акадэмкніга».*

